17 красавіка 2015 | № 15 (432)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Петра супраць Акселя

стар. 11

**3** ЯК ВЫШТУРХНУЦЬ НАРОД З КРАІНЫ

Ну ніяк народ не хоча паводзіць сябе так, як гэта запланавана ў асноўных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2030-га (альбо якога там) года!




**4** ПАДАРАВАЎ ЖОНЦЫ СМАРТФОН

«Экранная рэвалюцыя» забівае апошні цвік у труну дзяржаўнай ідэалогіі

**13** ПРЭЗІДЭНТ ШВЕЙКАЎ

У Чэхіі ў Сенат перададзеная неабходная колькасць подпісаў для таго, каб пачаць працэдуру імпічменту прэзідэнта Мілаша Земана, вядомага сваімі прарасійскімі заявамі...



**14** ПЯЦЬ АКУПАЦЫЙ ЗА АДНО ЖЫЦЦЁ

Цешуся жыццём я ўжо больш за 80 гадоў. Спыніўся, азірнуўся і жахнуўся. Аказваецца, усё маё жыццё прайшло аж пад пяццю акупацыямі. Не хочацца верыць, але гэта гістарычная праўда

# Недамаўляльныя

**«Хочаш прачытаць чарнавік свайго некралога? Сыдзі з палітыкі!» — так інтэрнэт жартаваў з каментароў з нагоды абвешчанага сыходу Уладзіміра Някляева**



Сяргей ПУЛЬША

Ніхто не патлумачыў разнагалоссі, з-за якіх Някляеў сказаў: «Гуд бай!». Ніхто не сказаў: «Слухай, не гарачыся, падумай яшчэ, можа застанешся?» Значыць, «сыход з палітыкі Някляева» быў даспадобы ўсім.

Шчыра кажучы, я здзіўлены, што Някляеў пратрымаўся так доўга. Год таму, падчас кампаніі мясцовых выбараў ужо было бачна: паэт расчараваны ва ўсіх сваіх так званых «аднадумцах». З прыкрасцю ён казаў напярэдадні дня галасавання 23 сакавіка: «Мы дамаўляліся, што ў дзень мясцовых выбараў абвесцім імя адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах ад апазіцыі. І дзе гэтае імя?»

Гэтае імя не назвалі і праз паўгода (абяцалі ў лістападзе), і праз год. Не будзе і Кангрэсу дэмакратычных сілаў. Спачатку ўсе змагаліся за працэдуру, за прадстаўніцтва на Кангрэсе, а зараз сказалі: «Цягнік сышоў». І ён сапраўды сышоў: дату выбараў павінны абвясціць у жніўні, а для падрыхтоўкі такога мерапрыемства трэба не менш за тры месяцы: трэба сабраць рэгіянальныя сходы, вылучыць дэлегатаў, забяспечыць іх яўку на Кангрэс, дамовіцца з памяшканнем, атрымаць дазвол на яго правядзенне і гэтак далей, далей, далей... Нават калі б падрыхтоўка да Кангрэса пачалася зараз, то акурат бы паспелі толькі да жніўня. Але зараз яна не пачнецца.

Прычым, цалкам не вядома, за што змагаюцца ў перамовах лідары апазіцыйных партый. Канешне, прадстаўніцтва на Кангрэсе — рэч важная для рэалізацыі ўласных амбіцый. Але ўласныя амбіцыі — гэта адно, а сітуацыя ў краіне — зусім іншае. Мы нездарма ў мінулым годзе праводзілі ў рэдакцыі НЧ круглыя сталы з экспертамі і палітыкамі. Для нас было важна зразумець: ці асэнсоўваюць палітыкі важнасць адзінства? Прадстаўнікі, прынамсі, нацыянальна-дэмакратычных сілаў білі сябе капытам у грудзі і ў адзін голас казалі: «Калі мы не дамовімся, мы можам страціць краіну!» То бок пагрозу, перад якой, падаецца, усялякія амбіцыі павінны былі сысці на другі ўзровень,

**Амбіцыі апазіцыі нічым не пацверджаны**




асэнсоўвалі ўсё. Але не дамовіліся. Амбіцыі — у дадзеным выпадку пустыя і нічым не пацверджаныя — перамаглі.

Можа быць, залішне абвостраным чуццём паэта Някляеў гэтую пагрозу асэнсоўваў крыху больш, чым іншыя. І ніякага выйсця, інакш, чым няўдзел у гэтай «страце краіны», ён не знайшоў.

Галоўнае, што паказаў ягоны сыход, — не тое, што апазіцыя не ўмее дамаўляцца. Вынік гэтай недамоўленасці — той, што апазіцыянеры ў чарговы раз пацвердзілі: у іх няма альтэрнатывы. На галоўнае пытанне выбаршчыка: «Калі не ён, дык хто?», уцямнага адказу мы не атрымалі.

Пакуль што ў нас ёсць два патэнцыйныя кандыдаты на прэзідэнта. Гэта Анатоль Лябедзька, згодна з рашэннем апошняга з'езду ягонай Аб'яднанай грамадзянскай партыі, і Таццяна Караткевіч, адна з каардынатарак «Гавары праўду». Што тычыцца Лябедзькі, то ягоная кампанія будзе «дваістай»: старшыня АГП пойдзе «другім нумарам» пасля Мікалая Статкевіча, які, відавочна, юрыдычнай рэгістрацыі як кандыдат не атрымае. Да таго ж Лябедзька ўжо пакінуў за сабою права зняцца з выбараў, якіх у нас не існуе, у любы момант.

Што тычыцца Караткевіч, то тут сітуацыя няўцямная. Пакуль што казалася толькі пра намер вылучыць яе кандыдаткай, а адзін з лідараў «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў у сацыяльных сетках прадставіў Таццяну як «твар пераменаў у Беларусі». То бок, пра паўнавартаснае кандыдацтва пакуль сказала толькі Партыя БНФ, якая заявіла пра падтрымку Караткевіч.

Такім чынам, Караткевіч пакуль што прамацала глебу свайго магчымага вылучэння, а не афіцыйна заявіла пра ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах у якасці кандыдаткі.

Карацей, да выбараў апазіцыя прыходзіць у цалкам «разабраным» стане. За паўгады да імавернага галасавання грамадства не ведае альтэрнатывы кіраўніку дзяржавы. Але і гэта яшчэ не самае кепскае.

Кепскае пачнецца, калі разам з прэзідэнцкімі выбарамі будзе абвешчаны рэферэндум. Фармальная падстава для такога кроку ёсць: напрыканцы 2013 года ў краіне былі ліквідаваныя гаспадарчыя суды, у тым ліку Вышэйшы гаспадарчы суд. А гэта значыць, трэба прывесці ў адпаведнасць з рэаліямі Канстытуцыю Беларусі, дзе сярод іншых судоў прапісаны і ВГС. Змяніць жа Канстытуцыю інакш, як на рэферэндуме, немагчыма.

Якія яшчэ пытанні могуць быць вынесеныя на гэты рэферэндум, можна толькі здагадвацца. І наўрад ці здарма з Масквы апошнім часам пачаліся настойлівыя «злівы» з патрабаваннем праз рэферэндум далучыцца ў «братэрскія абдымкі Расіі».

Што будуць рабіць «недамаўляльныя», калі яны сапраўды страцяць краіну?

# Песімістычныя прагнозы збываюцца

**Сітуацыя, якая склалася вакол палітвязня Міколы Статкевіча, вельмі сімптаматычная, паколькі яна дэманструе, што беларускія ўлады, па-першае, не жадаюць вызваляць палітвязняў, а, па-другое, толькі імітуюць дыялог з Еўрасаюзам.**



Так намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч каментуе інфармацыю пра новы суд, які чакае Мікалая Статкевіча ў зняволенні.

Акрамя таго, ён нагадвае пра крымінальны пераслед палітвязня Мікалая Дзядка і новую крымінальную справу супраць Юрыя Рубцова, які мае ўсе шансы патрапіць у калонію.

«Выглядае, што перад МЗС Беларусі стаіць задача як мага больш выціснуць з геапалітычнай сітуацыі, якая склалася вакол украінскага канфлікту. Пры гэтым унутры краіны ніякіх пазітыўных зменаў не адбываецца, і мы бачым, што няма палітычнай волі кіраўніцтва краіны на гэтыя змены», — кажа праваабаронца.

Як раней падкрэслівалі прадстаўнікі «Вясны», у сувязі з набліжэннем прэзідэнцкіх выбараў задача ўнутры краіны ставіцца зусім іншая — стрымліваць любыя праявы грамадскай актыўнасці, пра што неаднаразова казаў і Лукашэнка. Ужо зараз песімістычныя прагнозы праваабаронцаў пачынаюць збывацца. Так, узмацняецца ціск і на прадстаўнікоў праваабарончай супольнасці.

«Нават на фоне такога кволага палітычнага кантэксту ўнутры краіны ўзровень рэпрэсій павялічваецца. Мы бачым, што адбываецца ў рэгіёнах — атакі на праваабаронцаў.Ператрусы ў журналіста і праваабаронцаў у Магілёве відавочна скарыстоўваліся не столькі для праверкі па заяве аб дыфамацыйным артыкуле на рэгіянальным сайце пра кіраўніка аднаго з прадпрыемстваў, колькі для пошуку зачэпак для магчымых распрацовак мясцовых праваабаронцаў: кампутар, які міліцыя вярнула ўладальніку, правяралі па пошукавых словах «распіска», «заяўка», «грант», «справаздача», «Вясна» і так далей. Таксама ў чарговы раз улады спрабавалі зліквідаваць Магілёўскі праваабарончы цэнтр. Паказальная сітуацыя з праваабаронцам Леанідам Судаленкам у Гомелі, якому пагражаюць крымінальнай справай», — пералічае апошнія выпадкі Стэфановіч.

Праваабаронца ўпэўнены, што прынамсі да прэзідэнцкіх выбараў ніякіх зрухаў да лепшага ў краіне не будзе, і ў сувязі з гэтым выказвае шкадаванне з нагоды таго, што некаторыя еўрапейскія палітыкі, маючы найперш геапалітычныя інтарэсы і перавагі, не жадаюць заўважаць, што зараз адбываецца ў Беларусі.

**spring96.org**

# БХД заклікае наведаць Рубцова

**Беларускі палітвязень Юры Рубцоў з 6 красавіка знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання, яму прад'яўлена новае абвінавачванне за «ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі».**




Таксама новы суд чакае Міколу Статкевіча, бо адміністрацыя калоніі вырашыла, што ён «не стаў на шлях выпраўлення» і «мае намер весці злачынны лад жыцця».

У сувязі з гэтым Беларуская хрысціянская дэмакратыя патрабуе неадкладна спыніць ціск на Юрыя Рубцова, Міколу Статкевіча, Ігара Аліневіча, Арцёма Пракапенку, Мікалая Дзядка і Яўгена Васьковіча, вызваліць усіх палітвязняў і аднавіць іх у правах.

БХД заклікае амбасадараў 14-і еўрапейскіх краін, якія здзяйсняюць паездку па Брэсцкай вобласці (у тым ліку Пружанскім раёне), наведаць у Пружанскім ІЧУ Юрыя Рубцова.

Таксама БХД заклікае дэлегацыю Еўрапарламенту, якая бліжэйшым часам прыбудзе ў Беларусь, наведаць у месцах зняволення беларускіх палітвязняў.

**Прэсавая служба БХД**

# Беларусь пад чарговым аглядам ААН

Генадзь КЕСНЕР

**Беларусь пройдзе чарговую спецыяльную працэдуру ААН — Універсальны перыядычны агляд (УПА) — 4 мая 2015 года.**

У рамках гэтага агляду правяраюцца стандарты і практыка выканання правоў чалавека ў кожнай асобнай краіне, якая ўваходзіць у ААН. Універсальны перыядычны агляд, бадай, адзіны механізм, з якім супрацоўнічаюць беларускія ўлады.

Варта адзначыць, што ўсе краіны абавязаныя прайсці праз гэты працэс на роўных умовах. Гэта аднолькава тычыцца і Беларусі, і Германіі, і ЗША з Гандурасам.

Як распавёў намеснік старшыні незарэгістраванага Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч, 11 праваабарончых і грамадзянскіх структураў нашай краіны распрацавалі шэраг рэкамендацыяў для паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

Па словах юрыста, гэтыя рэкамендацыі дапамогуць дзяржавам-удзельніцам Агляду сфакусавацца на сітуацыі ў краіне і больш дакладна сфармуляваць свае прапановы афіцыйнаму Мінску.

Валянцін Стэфановіч паведаміў, што ўсяго рэкамендацый, выпрацаваных «кааліцыяй адзінаццаці», сорак восем.

«Яны тычацца такіх тэмаў, як смяротнае пакаранне, гвалтоўныя знікненні, катаванні ды іншае бесчалавечнае абыходжанне, якое прыніжае чалавечую годнасць; свавольныя затрыманні, сістэма правасуддзя і нацыянальныя механізмы па правах чалавека, свабода сходаў і асацыяцыяў, дыскрымінацыя і людзей з інваліднасцю, прымусовая праца і правы працоўных ды іншыя. Але некаторыя грамадзянскія структуры, напрыклад, арганізацыя інвалідаў і «Гей-Беларусь» падрыхтавалі яшчэ свае дадатковыя прапановы», — распавёў праваабаронца.

У сваю чаргу, юрыст Беларускай асацыяцыі журналістаў Алег Агееў звярнуў увагу на тое, што цэлы раздзел прапановаў тычыцца праблемаў свабоды выказвання, інфармацыі і свабоды прэсы.

«Вельмі важна правесці рэформу заканадаўства аб СМІ ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, у тым ліку прадугледзець роўныя магчымасці для ажыццяўлення прафесійнай дзейнасці журналістаў любых медыя, уключна журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ. Апошнім часам ціск на такіх журналістаў істотна ўзмацніўся, іх папярэджваюць, пераследуюць, штрафуюць. Неабходна таксама максімальна спрасціць працэдуру рэгістрацыі СМІ, дэкрымiналізаваць дыфамацыю», — падкрэсліў Алег Агееў.

Як сказаў кіраўнік БХК Алег Гулак, праваабаронцы ў сваіх выступах на прэсесіі ў Жэневе адзначалі, што за апошнія чатыры гады пасля апошняга УПА, праз які праходзіла Беларусь, сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі крыху змянілася ў станоўчы бок, але істотна не палепшылася. «Універсальны перыядычны агляд, бадай, адзіны механізм, з якім супрацоўнічаюць беларускія ўлады. Таму ёсць хоць і невялікае, але спадзяванне, што яны дзеля паляпшэння свайго іміджу ў вачах міжнароднай супольнасці ў сучасных умовах выкарыстаюць прапановы беларускіх праваабаронцаў і грамадзянскай супольнасці. Хоць такія надзеі і невялікія», — падсумаваў юрыст.

# Каго бароніць Канстытуцыйны суд?

Марат ГАРАВЫ

**Канстытуцыйны суд адмовіўся ўзбуджаць вытворчасць па справе аб допуску ў суды прадстаўнікоў грамадзян. Пра гэта НЧ паведаміла бабруйчанка Валянціна Каваленка.**




Напрыканцы сакавіка яна разам са сваёй землячкай Любоўю Санкевіч звярнулася ў Канстытуцыйны суд з просьбай распачаць вытворчасць па справе аб устараненні ў Грамадзянскім працэсуальным кодэксе Рэспублікі Беларусь (ГПК) прабелаў, выключэння ў ім калізій і прававой нявызначанасці.

Згодна Канстытуцыі, падчас разгляду справы ў судзе грамадзяне маюць права карыстацца юрыдычнай дапамогай не толькі адвакатаў, але і іншых сваіх прадстаўнікоў. Аднак артыкул 72 ГПК абмяжоўвае спіс такіх прадстаўнікоў. Гаворка ідзе выключна пра адвакатаў; працаўнікоў юрыдычных асобаў — па справах гэтых асобаў; упаўнаважаных грамадскіх аб'яднанняў, якім законам дадзена права прадстаўляць і абараняць у судзе правы і законныя інтарэсы сябраў гэтых грамадскіх аб'яднанняў і іншых асобаў; законных прадстаўнікоў; бліжэйшых родзічаў, мужа і жонкі; прадстаўнікоў, прызначаных судом; аднаго з працэсуальных саўдзельнікаў — па даручэнню гэтых саўдзельнікаў, а таксама пра патэнтнага паверанага.

Разам з тым, згодна ГПК, абавязак даваць доказы поўнасцю ўскладзены на ўдзельнікаў грамадзянскага працэсу, якія маюць права вольна распараджацца належачымі ім матэрыяльнымі і працэсуальнымі правамі. Аднак у практыцы грамадзянскага судаводства гэта права нельга рэалізаваць, калі грамадзяне жадаюць выкарыстаць у якасці прадстаўнікоў сваіх сяброў і знаёмых — людзей, якім давяраюць і якія валодаюць неабходнымі ведамі, але не пазначаным у спісе артыкула 72 ГПК.

Паколькі гэты артыкул абмяжоўвае правы грамадзян вычарпальным спісам іх прадстаўнікоў для ўдзелу ў грамадзянскім судаводстве, Валянціна Каваленка і Любоў Санкевіч і звярнуліся ў Канстытуцыйны суд з просьбай узбудзіць вытворчасць па справе аб устараненні ў ГПК Рэспублікі Беларусь прабелаў, выключэння ў ім калізій і прававой нявызначанасці.

У сваім адказе начальнік сакратарыяту Канстытуцыйнага суду Аляксандр Каравай парэкамендаваў заяўнікам ліста звярнуцца ў тыя ўпаўнаважаныя дзяржаўныя структуры (прэзідэнт, Палата Прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу, Вярхоўны суд і Савет міністраў), якія валодаюць правам накіроўваць у Канстытуцыйны суд адпаведныя прапановы аб канстытуцыйнасці тых ці іншых айчынных нарматыўных прававых актаў.

Каментуючы ўзнікшую сітуацыю, юрыст Тамара Сяргей зазначыла, што з прыняццем у мінулым годзе Закона Рэспублікі Беларусь «Аб канстытуцыйнай вытворчасці» для грамадзянаў нібыта прыадчыніліся дзверы Канстытуцыйнага суду. «Але, як сведчаць вынікі ліставання бабруйчанак з Канстытуцыйным судом, закон можна прыняць і не выконваць яго», — сказала юрыстка.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як выштурхнуць народ з краіны

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ну ніяк народ не хоча паводзіць сябе так, як гэта запланавана ў асноўных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2030-га (альбо якога там) года!**




Мы ўсе думалі, што «падатак на дармаедства» тычыцца дармаедаў. Што гэта спроба скампенсаваць тыя «сацыяльныя гарантыі», якімі дармаеды карыстаюцца задарма (на тое яны і дармаеды). Аднак усё значна складаней. Насамрэч, гэта сапраўды, як казалі злыя людзі, «падатак на жыццё ў краіне». А каму не падабаецца — з краіны прэч! Гэта на тыдні патлумачыла начальнік юрыдычнага ўпраўлення Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Валянціна Маслоўская.

Адказваючы на пытанне «Еўрарадыё» пра тое, ці можна жыць на заробленыя законным шляхам і назапашаныя грошы, не плацячы падатак «за дармаедства», Маслоўская адзначыла: такое немагчыма. «Распаўсюджваць заплачаныя калісьці падаткі на будучыню нельга. Скажыце, дзе такое магчыма, у якой дзяржаве? Вы працавалі, вы плацілі падаткі, але вы гэта рабілі за той перыяд. Калі вы перасталі працаваць, то мы не можам залічыць выплачаныя падаткі на будучыню. У сваёй практыцы я яшчэ ні ў адной дзяржаве такога не сустракала».

Адзіная ўмова, пры якой можна жыць на зберажэнні, і не плаціць «падатак на дармаедства», — з'ехаць з краіны больш чым на паўгады. «Разглядаючы Дэкрэт №3, то так, вам трэба з'ехаць. Калі пражывеце ў краіне менш 183 дзён у годзе, то будзеце вызвалены ад збору», — катэгарычна заявіла Маслоўская.

Зразумелі? Гэта сапраўды падатак на пражыванне ў краіне. Хто не хоча яго плаціць, той мусіць з'ехаць. Пэўна, спадарыня Маслоўская спадзяецца, што з'ехаўшых заменіць нехта іншы, а інакш, хто будзе карміць саму Маслоўскую? Яна ж жыве на нашыя падаткі.

Такім чынам, сітуацыя зразумелая. Калі наш «народзец» такі дрэнны, трэба замяніць яго іншым народам. І дзяржава спрабуе гэта ажыццявіць у рэальнасці.

І што самае дзіўнае, у яе гэта атрымліваецца! Як паведамляе інтэрнэт-сайт «Заўтра тваёй краіны», беларусы па тэмпах міграцыі ў Расію — наперадзе ўсёй планеты. Яны апярэдзілі нават кітайцаў!

Па дадзеных Федэральнай міграцыйнай службы (ФМС) Расійскай Федэрацыі, за апошні год (з красавіка 2014 года і па цяперашні час) колькасць беларускіх мігрантаў у Расіі павялічылася на 137,2 тысячы чалавек, ці на 34,4%. Больш, чым беларусаў, у Расію прыехала толькі ўкраінцаў: армія ўкраінскіх мігрантаў у РФ папоўнілася на 950,1 тысячы чалавек, ці на 59,2%. Гэта зразумела — прырост адбыўся ў асноўным за кошт бежанцаў з ахопленага вайной Данбаса, да якога Расія прыклала сваю руку.

Варта зазначыць, што па маштабе міграцыі ў Расію беларусы апярэдзілі нават усюдыісных кітайцаў, а таксама грамадзян Казахстана і Арменіі. За апошні год кітайская дыяспара ў Расіі вырасла на 44,4 тысячы чалавек (21,1%), казахстанская — на 78,1 тысячы (13,8%), армянская — на 36,9 тысячы (8%). Менавіта Украіна, Беларусь, Казахстан, Кітай і Арменія забяспечылі за апошні год Расіі станоўчае міграцыйнае сальда: 163,4 тысячы чалавек.

І гэта, дарэчы, колькасць толькі легальна заехаўшых, зарэгістраваных беларускіх мігрантаў. А колькі яшчэ тых, хто ў ФМС Расіі не рэгістраваўся? Нават «крызісная Расія» застаецца для беларусаў прывабнай. А ўжо колькі людзей задумаюцца над тым, каб пакінуць краіну, пасля заяваў спадарыні Маслоўскай!

Між іншым, пакідаюць краіну спецыялісты і дасведчаныя людзі, якія знаходзяць за мяжой працу. У першую чаргу ідзе «вымыванне мазгоў». І гэта, канешне ж, адбіваецца на паказчыках працы нашых прадпрыемстваў.

Белстат у чарговы раз паведаміў пра «дасягненні сацыяльнай дзяржавы». Беларускія прадпрыемствы, якія ўлічваюцца ў бягучым парадку, за студзень-люты 2015 больш чым у 2 разы знізілі чысты прыбытак у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, чысты прыбытак зваліўся з 5,002 трыльёна да 2,757 трыльёна рублёў.

Сума ж чыстай страты стратных прадпрыемстваў Беларусі, якія ўлічваюцца ў бягучым парадку, за студзень-люты 2015 года склала 12,3 трыльёна рублёў, што ў 3,3 разы больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. За студзень-люты 2015 года стратнымі былі 1874 арганізацыі, або 24,1% ад агульнай колькасці арганізацый, якія ўлічваюцца ў бягучым парадку (за студзень-лютым 2014 года — 1479 арганізацый, або 19%).

Рэзюмуем: прыбытак нармальных прадпрыемстваў знізіўся ў два разы, страты стратных прадпрыемстваў павысіліся ў тры разы, чвэрць беларускіх арганізацый стратныя, то бок чвэрць эканомікі, па вялікім рахунку, банкруты. Чаму так адбываецца?

А чаму не? Спецыялісты з'ехалі, з кім працаваць? Хто будзе распрацоўваць новую прадукцыю, новыя бізнес-планы, новую лагістыку, прасоўваць тавар на рынак? Тыя, хто ўмеў гэта рабіць, паслухаліся парады Маслоўскай, а тых, хто не ўмее, навучыць няма каму, бо — глядзі пункт першы: «спецыялісты з'ехалі». А новых і няма!

І таму нашае становішча будзе пагаршацца. Гэта не я кажу, гэта кажа Міжнародны валютны фонд. Яшчэ мінулай восенню ён прагназаваў, што ў гэтым годзе рост ВУП Беларусі складзе 1,5%. Зараз МВФ ужо сцвярджае, што эканоміка сінявокай па выніку бягучага года абваліцца на 2,3%.

У 2016 годзе эканоміка РБ упадзе яшчэ 0,1%, вынікае з прагнозу. У 2020 годзе рост ВУП сінявокай складзе бездапаможныя 0,5%.

Не лепш ідуць справы і з інфляцыяй. Восенню мінулага МВФ прарочыў беларусам рост спажывецкіх цэн у 2015 годзе на 16,9%. Але прыйшоў 2015-ы, і цяпер, на думку МВФ, краіне прыйдзецца перажыць інфляцыю ў 22,1%.

У 2016 годзе ўладам атрымаецца прытармазіць рост коштаў да 17,4%. Але нават у 2020 годзе краінаў не выйдзе з цэнавага абвалу — МВФ прадказвае Беларусі праз 5 гадоў інфляцыю ў 16,5%.

Карацей, улада робіць, як тыя бізнесоўцы ў крызіс: «Я ўжо тры месяцы сваім рабочым заробак не плачу, а яны ўсё роўна на працу ходзяць... — А ты зрабі ўваход платны!» Падобна на тое, што для беларусаў зрабілі платным пражыванне ў краіне, але іншага народу для ўлады ўсё адно не знайшлося.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Міхаіл Мясніковіч

**Экс-прэм'ер Беларусі, а сёння спікер верхняй палаты парламента выступіў у ролі змагара з нерацыянальным выкарыстаннем дзяржаўных сродкаў.**

«Няма дысцыпліны пры вытворчасці сельгаспрадукцыі і яе перапрацоўцы. Няма адказнасці. Гэта выліваецца ў істотныя страты выручкі, практычна супастаўныя з сумамі дзяржпадтрымкі, якая аказваецца АПК. Таму, думаю, час патрабаваць з адказных людзей, службовых асоб, спецыялістаў за тыя дзяржаўныя трыльёны рублёў, якія з-за халатнасці, расхлябанасці не даюць належнай аддачы», — заявіў Мясніковіч на семінары ў Бабруйску.

За гады прэм'ерства Мясніковіч падпісаў не адзін дзясятак пастаноў, якія прадугледжваюць укідванне бюджэтных грошай у бяздоннае сяло, і выдатна разумее, што калі ўжо і пытацца з кагосьці за прафуканыя трыльёны, то трэба пачынаць з яго.

Дарэчы, сёлета дзяржпадтрымка вёсцы складзе каля $400 млн.

## Мікалай Статкевіч

**Самы вядомы палітвязень Беларусі, былы кандыдат у прэзідэнты можа зноў вярнуцца ў турму.**



«Мікалая Статкевіча чакае новы суд. Адміністрацыя калоніі вырашыла, што ён настолькі «не стаў на шлях выпраўлення», і «мае намер весці злачынны лад жыцця», што яго далейшае ўтрыманне ў гэтай высокамаральнай установе немагчыма», — паведаміла яго жонка Марына Адамовіч на сваёй старонцы ў Фэйсбуку.

9 красавіка камісія папраўчай калоніі № 17 Шклова, дзе ўтрымліваецца Статкевіч, прыняла рашэнне адправіць яго на турэмны рэжым да канца тэрміну. На сёння ў Статкевіча 13 спагнанняў, толькі за адзін тыдзень на яго склалі восем актаў нібыта за парушэнне рэжыму. Зараз Статкевіч на два месяцы пераведзены ў памяшканне камернага тыпу, дзе няма дзённага святла, а на шпацыр адводзіцца паўгадзіны ў дзень.

Мікалай Статкевіч асуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў арганізацыі беспарадкаў у дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Сваёй віны палітык не прызнаў і адмовіўся пісаць прашэнне аб памілаванні. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Статкевіча палітычным зняволеным.

## Андрэй Стрыжак

**Каардынатар моладзевай сеткі прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці разам з іншымі валанцёрамі перадаў у зону АТА для параненых украінскіх вайскоўцаў машыну хуткай дапамогі, якую купілі за грошы беларусаў.**



«Рэанімабіль мы назвалі «Ратаўніца» і ўпрыгожылі налепкамі з вышыванкай. Большую частку грошай, за якія мы набылі рэанімабіль, сабралі беларусы. Кошт рэанімабіля — 5500 еўра, 4800 з іх — гэта грошы беларусаў, якія ахвяравалі на патрэбы шпіталяў у АТА. Машына была ўрачыста перададзеная ў рукі кіраўніка шпіталя Яўгена Найштэціка. Цяпер «Ратаўніца» ўжо заступіла на баявое дзяжурства, тым больш што 12 красавіка пачалася актывізацыя баявых дзеянняў на данецкім кірунку», — распавёў Стрыжак.

Прычым, Стрыжак не палохаецца агалоскі гэтай дзейнасці. «Ёсць тыя, хто робіць добрыя справы за ўласны кошт, як бізнесоўцы ці іншыя заможныя людзі, — яны не абавязкова павінны расказваць пра сваю дабрачыннасць. У выпадку працы паводле схемы краўдсорсынгу, калі валанцёры збіраюць грошы ахвярадаўцаў і пасля накіроўваюць іх на карысную справу, абавязкова павінна быць публічная справаздача. Так, гэта піяр, які ў дадзеным выпадку значыць камунікацыю з людзьмі, якія спадзяюцца на тое, што іх грошы пойдуць на карысную справу. Таму пісаць пра тое, што робіцца, або «піярыцца», трэба абавязкова, гэта спрыяе празрыстасці», — лічыць ён.

а | Азбука паліталогіі

# Падараваў жонцы смартфон…



Сяргей НІКАЛЮК

**«Экранная рэвалюцыя» забівае апошні цвік у труну дзяржаўнай ідэалогіі.**

Удэградацыі беларускай мадэлі сумнявацца не даводзіцца. Працэс развіваецца ў поўнай адпаведнасці з адным з базавых палажэнняў, выказаных адзіным палітыкам (АП) у сакавіку 2003 года: *«Идеология для государства — то же самое, что иммунная система для живого организма. Если иммунитет ослабевает, любая, даже самая незначительная, инфекция становится смертельной. Точно так же с государством: когда разрушается идеологическая основа общества, его гибель становится только делом времени, каким бы внешне государство ни казалось сильным и грозным»*.

Практыка — крытэр ісціны. Варта было толькі ідэалагічнай аснове савецкага грамадства разбурыцца, як «найвялікшая катастрофа ХХ стагоддзя» стала справай часу. Яна надышла пасля падзення коштаў на нафту ў 1985 годзе. Падставу, аднак, не варта блытаць з прычынай.

Сучасная беларуская дзяржава сканструяваная з абломкаў БССР. Іншага будаўнічага матэрыялу ў распараджэнні злёгку абноўленай эліты папросту не было. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Будучыня фармуецца з сучаснасці. А што з сябе ўяўляла сучаснасць у пачатку 1990-х, думаю, многія чытачы НЧ яшчэ памятаюць.

Але калі ў будаўніцтве эканамічнага блока беларускай мадэлі спачатку ўсё было не так кепска, дык з ідэалогіяй атрымаўся пракол. У кастрычніку 2014 года падчас прэс-канферэнцыі журналістам расійскіх рэгіянальных СМІ АП быў вымушаны гэта прызнаць: *«Мне говорят: наша идеология — это глубочайший патриотизм и прочее. Ну да, патриотизм, но это и без идеологии понятно и так далее. А нужна такая зажигающая вещь, которая была бы воспринята всем обществом и которые бы стремились к этому.* ***Вот честно вам говорю: ни я не изобрел этого и не придумал, ни мои помощники»*** (выдзелена. — С.Н.).

Адсутнасць ідэалогіі не прывяла да ліквідацыі ідэалагічнай «вертыкалі». *«Вы говорите «идеология»… У нас кадры по идеологии, их задача — не допустить охаивания того, что нами сделано и что поддерживается большинством народа»,*— патлумачыў АП.

## З кім вы, майстры культуры?

Фармат «Азбукі паліталогіі» патрабуе пераходу ад фактаў да тэорыі.

Першыя ідэалогіі ў выглядзе монатэістычных рэлігій паўсталі на завяршальным этапе дуалістычнай рэвалюцыі. Але перш чым паспрабаваць адказаць на пытанне, «што гэта такое і з чым яе ядуць?», адкрыем кнігу географа і пісьменніка Уладзіміра Арсеннева «Дзерсу Узала»: «Нечакана, Дзерсу лёгка перанёс марскую гайданку. Ён і мінаносец лічыў жывой істотай.

— Мая добра разумей — яго, — ён паказваў на мінаносец «Грозны», — сёння вельмі сердаваў».

Дзерсу не здольны правесці рысу, што аддзяляе неадушаўлёныя прадметы ад адушаўлёных. Ён і сябе з цяжкасцю вылучае з адзінага і непадзельнага свету. Сацыёлагі толькі ўмоўна назвалі б яго суб'ектам. Сам жа Дзерсу бачыў суб'ект у знешнім — у прыродзе і шматлікіх духах, што яе насяляюць.

«Добры ён чалавек, праўдзівы, — казаў старавер. — Адно толькі дрэнна — няхрышчаны ён, азіят, у Бога не верыць». А як яму верыць у адзінага Бога? Без здольнасці думаць абстрактнымі катэгорыямі з гэтай задачай не справіцца. З такімі, як Дзерсу, і дзяржавы не пабудаваць. Хіба стане ён галасаваць на выбарах за адзінага палітыка ці адзінага кандыдата апазіцыі, не разумеючы іх ролі ва ўласным жыцці? Іншая справа — дамавікі і лесуны. Тут не падмажаш — і ўсё пойдзе абы-як.

Развіццё ёсць працэс ускладнення (дыферэнцыяцыі). Для «дзяцей прыроды» складанасць — сінонім хаосу. З адзінствам з яго гарызантальна звязанымі апазіцыямі (жаночае–мужчынскае, неба–зямля, жывое–нежывое і да г.д.), якое распадалася, штосьці трэба было рабіць. І вялікія багі пачалі пажыраць маленькіх.

Свет зноў спрасціўся за кошт сцягвання шматлікіх апазіцый да двух полюсаў: Дабра (Бог) і Зла (Д'ябал). Працэс гэты пачаўся ў ІІ тысячагоддзі да н. э. і завяршыўся ў Сярэднявеччы.

Але чалавек, што вызваліўся ад аднаго тыпу праблем, тут жа апынуўся перад тварам новых. Двухполюсны свет запатрабаваў асабістага выбару ад кожнага (Дзерсу такога выбару не ведаў). Як тут ні прыгадаць пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага з яго пытаннем-пагрозай: «З кім вы, майстры культуры?» (З полюсам Дабра ў яго сталінскай інтэрпрэтацыі або з полюсам Зла ў інтэрпрэтацыі «ворагаў народа»?)

Такім чынам, неабходнасць выбару стала асэнсоўвацца як фундаментальная задача чалавечага існавання. «Гэта ёсць рэвалюцыя, бо ўзнікаюць умовы для фармавання праектыўнай свядомасці. Узнікае магчымасць для выспявання ўласна ідэалогіі» (Андрэй Пеліпенка, культуролаг).

Двухполюсны свет спараджае феномен служэння. Чалавек пачынае ўсведамляць сваю дзейнасць як служэнне полюсу Дабра. У так званых «рэлігіях выратавання» з'яўляюцца сацыяльныя групы, якія паставілі такога кшталту служэнне на прафесійныя рэйкі (манахі).




## Рай нябесны, рай зямны

Са сказанага вышэй робяцца зразумелымі вытокі праваслаўнай духоўнасці. Служэнне полюсу Дабра — справа няпростая. Таму на навязденне парадку ва ўласным гародзе і пад'ездзе часу не застаецца. «Наша культура, — адзначае культуролаг Ігар Якавенка, — нясе ў сабе гіганцкі патэнцыял ігнаравання аб'ектыўнасці». Чалавек, які праводзіць жыццё ў летуценнях пра Належнае, не заўважае Існага. Ён ненавідзіць мешчаніна, бяскрылага абывацеля, які ўладкоўвае рэальнае жыццё — сваё і сваіх блізкіх.

Ён жыве пры апошніх днях тварэння (эсхаталагічны комплекс). Будзе жудасная апошняя бітва Дабра і Зла, Святла і Цемры, якая завершыцца перамогай Дабра і Святла. А калі так, то ў паўсядзённым жыцці ў рэжыме «тут і цяпер» няма сэнсу штосьці-небудзь стварыць і назапашваць. Наадварот, трэба думаць пра душу, вызваліцца ад усяго, што наліпла за час жыцця.

Хрысціянскі варыянт Належнага — Рай нябесны. Камунізм — яго свецкі аналаг, які заваяваў прыхільнікаў сярод індустрыяльных працоўных, у масе сваіх ўчорашніх сялян, на мяжы ХІХ–ХХ стагоддзяў. Вырваныя са свету, які жыве ў цыклічным часе сельскагаспадарчых работ, у свет машынных рытмаў, яны сталі носьбітамі рэвалюцыйнай свядомасці. Пры гэтым, аднак, варта памятаць, што рэвалюцыі індустрыяльнай эпохі — гэта не барацьба за лепшую долю, а чарговыя спробы правраўца ў эсхаталагічны рай.

Нябачаны па маштабах і ахвярах канфлікт Першай сусветнай вайны прывёў да змыкання «старажытнай этнічнай памяці з уяўленнямі пра нацыі, якія працягваюць актыўна ў той час фармавацца, што склала канкурэнцыю інтэрнацыянальна-класавай утопіі» (Пеліпенка).

Вайна бальшавізму з германскім нацызмам была сутычкай дзвюх сярэднявечных па духу ідэалогій за прыярытэтную эсхаталагічную мадэль, за сваю версію Належнага.

## Кацяняты і лайкі

Але ўсё народжанае, згодна з Гегелем, вартае смерці. Секулярызацыя свядомасці павольна, як кроплі камень, разбурыла Належнае ва ўсіх яго відах, адначасова апраўдаўшы Існае.

Смерці Належнага прысвечаны культавы савецкі фільм «Масква слязам не верыць». Яго галоўная гераіня — дырэктар буйной фабрыкі. Калі б такі фільм здымаўся ў канцы 40-х ці пачатку 50-х гадоў, то ў цэнтры сюжэту апынулася б барацьба гераіні за выкананне вытворчых паказчыкаў. Але Належнае памерла, і гераіня фільма на працягу дзвюх серый занятая добраўпарадкаваннем свайго асабістага жыцця. Яе высокі статус у савецкай іерархіі нічым ёй не дапамагае, хутчэй наадварот.

Не магу адмовіць сабе ў задавальненні, каб не прывесці фрагмент знакамітага дыялогу Гошы і Мікалая:

*— Да нет! Она этим самым обнаружила, что для нее социальный статус человека выше, чем его… мой личный статус!*

*— Переведи…*

Канчатковую рысу пад светам іерархій і статусаў падвядзе «экранная рэвалюцыя», якая разгортваецца на нашых вачах.

Я падараваў жонцы смартфон. На маю бяду, яна яго асвоіла, і зараз у яе рэгулярна з'яўляюцца падставы адцягваць мяне ад працы: «паглядзі, якія кацяняты», «а пад маёй апошняй фатаграфіяй у «Аднакласніках» паставілі ўжо 10 лайкаў»…

Карціна свету з выразна пазначанымі палюсамі Дабра і Зла апынулася пахаванай пад патокам бытавых навін. Кожны ўладальнік гаджэта — сам-сабе-рэжысёр з неабмежаванымі магчымасцямі доступу да «шаноўнай публікі». Мяжа паміж вытворцамі навін і іх спажыўцамі абвалілася, пахаваўшы пад сабой Належнае на радасць джыну з бутэлькі Існаму, што вырваўся на волю.

І вось у гэтых умовах АП заняўся пошукам *«зажигающей вещи»*, здольнай быць зразумелай ва ўсім грамадстве. Ад патрыятызму ён адмахнуўся па прычыне яго банальнасці: *«Ну да, патриотизм, но это и без идеологии понятно и так далее»*.

Каму, прабачце, зразумела? Грамадзянству старажытнагрэчаскага поліса? Падданаму Тэакратычная імперыі?

Раз на два гады НІСЭПД задае беларусам пытанне: «Ці хацелі б вы пераехаць у іншую краіну на пастаяннае месца жыхарства, калі б у вас была такая магчымасць?» Колькасць станоўчых адказаў, як правіла, не апускаецца ніжэй за 40%. Але у групе рэспандэнтаў да 30 гадоў колькасць ахвочых змяніць краіну пражывання вагаецца ў межах ад 60 да 65%!

Безумоўна, паміж жадаючымі пераехаць на ПМЖ у Нямеччыну ці ЗША і тымі, хто прыкладае рэальныя намаганні для пераезду, пралягае значная дыстанцыя. Тым не менш тэндэнцыя ў наяўнасці. Яна не з'яўляецца выключна беларускай.

Крыху статыстыкі, запазычанай з Вікіпедыі: «З 1990 па 2010 год з Літвы з'ехалі каля 615 тысяч жыхароў, паводле дадзеных Дэпартамента статыстыкі (па неафіцыйных дадзеных, каля мільёна чалавек) — такім чынам, за апошнія гады з краіны з'ехала пятая частка насельніцтва».

Такая новая рэальнасць. Сучасны чалавек абмяняў сярэднявечнае Належнае на свабоду, пад якой ён разумее прастору альтэрнатыў для асабістай самарэалізацыі, хай і шляхам размяшчэння сваіх фота ў «Аднакласніках».

# Распродажу не будзе

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Масква перадумала ствараць сумесны холдынг МАЗа і КамАЗа. Пра гэта заявіў віцэ-прэм'ер Расіі Аркадзь Дварковіч падчас адкрыцця этапу Усерасійскага стартап-тура фонду «Сколкава» ў Мінску. Па яго словах, па гэтым пытанні «няма агульнага разумення».**



«Па астатніх пытаннях працягваюцца кансультацыі з беларускім бокам, ёсць папярэдняя ацэнка кошту актываў, яна абмяркоўваецца, абмяркоўваецца структура здзелак і магчымыя тэрміны рэалізацыі», — распавёў Дварковіч.

### Нежаданне прадаўца

Размова аб «беларуска-расійскай халдэнгізацыі» прадпрыемстваў цягнецца як мінімум пяць гадоў. Яшчэ за прэзідэнтам Дзмітрыем Мядзведзевым Беларусь і Расія дамовіліся стварыць пяць інтэграцыйных праектаў. Гэта аўтамабільны холдынг «Расбелаўта» (ААТ «МАЗ» — ААТ «КамАЗ»), ААТ «Інтэграл» і ААТ «Расійская электроніка», ААТ «Мінскі завод колавых цягачоў» і ДК «Растэхналогіі», ААТ «Пеленг» і Федэральнае касмічнае агенцтва «Раскосмас», ААТ «Гродна-Азот» і ААТ «Мінеральна-хімічная кампанія «ЕўраХім» альбо іншы партнёр.

Па ўсіх гэтых праектах узнікаюць пытанні, якія не вырашальныя на эканамічным узроўні, нягледзячы на тое, што яны «нібыта эканамічныя». Спачатку ўзнікалі рознагалоссі з ацэнкай прадпрыемстваў — расіянам здавалася, што кошт МАЗу завышаны. Потым ішла размова пра тое, колькі акцый прадпрыемствы перададуць у холдынг. Далей узніклі праблемы з кіруючай кампаніяй холдынгу. У 2013 годзе, падавалася, пра ўсё ўжо дамовіліся і абяцалі падпісаць «халдэнгізацыю» ўвосень 2013-га. Потым тэрмін перанеслі на 2014-ы. А ўжо прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў раздражнёна казаў: трэба альбо аб'ядноўвацца, альбо закрыць гэтую тэму.

А беларускі бок усё карміў расіянаў абяцанкамі: вось-вось дапрацуем, дашліфуем, падпішам. «Дапрацоўка» цягнецца дагэтуль. Гэта якраз той выпадак, калі «лепшае — вораг добрага». Альбо поўнае нежаданне аб'ядноўваць беларускія прадпрыемствы з расійскімі.

### Час сышоў

Час для аб'яднання беларускіх і расійскіх прадпрыемстваў сышоў. Аб'ядноўвацца ў холдынгі мела сэнс тады, калі ў людзей і прадпрыемстваў былі грошы. Зараз, на фоне танных коштаў на нафту і абвалу расійскага рубля, эканамічнай выгады ад такіх холдынгаў не атрымае ніхто. Акрамя размоў пра «братнюю інтэграцыю». Але інтэграцыю на хлеб не намажаш.

Дзеля чаго МАЗу трэба было аб'яднанне з КамАЗам? Дзеля таго, каб заняць большае месца на расійскім рынку. Але Расія зараз не набывае нават свае аўтамабілі. Продажы МАЗаў у РФ скараціліся ў мінулым годзе прыкладна на 20% (па стане на канец кастрычніка 2014-га). Але ж і ў КамАЗа статыстыка не лепшая — ягоныя продажы скараціліся на 7% за першае паўгоддзе 2014-га года. І гэта калі, па-першае, КамАЗ для Расіі з'яўляецца «родным» прадпрыемствам, і па-другое, гэтае скарачэнне адбывалася яшчэ да восеньскага фінансавага крызісу.

Такім чынам, зараз не купляюцца ані МАЗ, ані КамАЗ. Сэнс аб'ядноўваць два «стратныя прадпрыемствы»? З двух банкрутаў аднаго плацежаздольнага кліента не атрымаецца.

### «Холдынгавы перафармат»

Прыкладна тое ж самае адбываецца зараз з іншымі патэнцыйна «халдэнгізаванымі» прадпрыемствамі: ідзе бясконцая ацэнка актываў і спрэчкі пра формы зліцця. Некаторым гэта ўжо надакучыла. Прынамсі, кіраўнік расійскай кампаніі «ЕўраХім» Дзмітрый Стрэжнёў зазначыў, што «ЕўраХім» хоча не ствараць холдынг з «Гродна-Азотам», а наўпрост набыць беларускае прадпрыемства. Пытанне толькі ў цане.

«Мы з задавальненнем рэалізавалі б праграму інвеставання ў пашырэнне беларускага «Гродна Азоту», вядзем перамовы з урадам краіны аб магчымым удзеле», — распавёў ён у інтэрв'ю «Камерсанту». Аднак, паводле яго слоў, «гэта складана», бо «асноўнае пытанне, колькі каштуе прадпрыемства».

Але і спробы набыцця прадпрыемства «ЕўраХім» робіць без асаблівага імпэту. «Мы, як адзіна настойлівыя, хочам давесці сітуацыю да нейкага конкурсу, які нас задаволіў, а далей — як вырашыць беларускі ўрад», — падкрэсліў Стрэжнёў.

Між іншым заўважым, што ў мінулым годзе беларускі ўрад выставіў на таргі 25% +1 акцыю ААТ «Гродна Азот». Пасля рэалізацыі інвестыцыйнай праграмы пакупнік мог бы атрымаць і кантрольны пакет прадпрыемства. Аднак таргі не адбыліся з-за адсутнасці прэтэндэнтаў.

### Палітэканомія

У прынцыпе, зараз — сапраўды не час пачынаць (ці працягваць) нейкія размовы пра беларуска-расійскія холдынгі. Аб'ядноўваць прадпрыемствы варта, калі ад гэтага аб'яднання будзе яўная выгада. Зараз такой выгады не бачна.

Найперш, Расія знаходзіцца ў фінансавай багне, а расійскія прадпрыемствы «закрэдытаваныя» не менш, чым беларускія. Тая ж дзяржкампанія «Растэхналогіі», завязаная на двух холдынгавых праектах — з МАЗам і МЗКТ — набрала крэдытаў у расійскіх «Сбербанка» і ВТБ, а ў 2012 годзе нават прадала фірму па вытворчасці тытану, каб расплочвацца з крэдыторамі. У такіх варунках разлічваць на тое, што ў беларускія прадпрыемствы ад Расіі паступяць грошы на мадэрнізацыю вытворчасці і нейкія інвестыцыі, не выпадае.

Не трэба скідаць з увагі і тое, што Расія з-за сваёй агрэсіўнай палітыкі ў адносінах да Украіны і Крыму знаходзіцца пад фінансавымі санкцыямі Захаду. Калі гэтыя санкцыі будуць пашырацца, яны могуць закрануць і беларускія «халдэнгізаваныя» прадпрыемствы. Прычым, гэта тычыцца ўсіх беларускіх прэтэндэнтаў на холдынгі: «Пеленг», МЗКТ і «Інтэграл» «заточаныя» на ваенна-прамысловы комплекс, «Гродна-Азот» прадае свае ўгнаенні па ўсім свеце, і той жа МАЗ прадаў у мінулым годзе 44 машыны ўкраінскай Нацгвардыі. Як кажуць у Расіі: «Нічога асабістага — проста бізнес».

Канешне, па словах таго ж Дварковіча, наконт стварэння холдынгаў «у любым выпадку спатрэбіцца палітычнае рашэнне абодвух бакоў — і беларускага, і расійскага». Але нешта адчуваецца, што «беларускае палітычнае рашэнне» Дварковіча не задаволіць.

## КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Кропкі падзення



**Працяглы час лічылася, што сельская гаспадарка адолела шлях да буйнатаварнай вытворчасці. Маўляў, насуперак шалёнаму супраціву ліберальных дзялкоў, захавалі калгасны лад і пазбавілі дзяржаву ад немінучых вялікіх катаклізмаў.**

За адно гэта, за рэалізаваную мару аб шчасці, калгаснікам можна дараваць нізкую прадукцыйнасць, неэфектыўнасць вытворчасці, спісаць іх выдаткі і разлічыцца па іх абавязках перад крэдыторамі.

Пры гэтым улады ўвесь час кажуць, што і ў іншых краінах урады ахвяруюць бюджэтныя сродкі на датацыі аграрнай галіне. Праўда, пры гэтым умоўчваюць, што там грошы даюць на тое, каб выраблялі менш, каб не справакаваць перавытворчасць і, як следства, аграрны крызіс.

А ў нас наадварот. Дзяржава коштам датацый спрабуе падцягнуць калгасную гаспадарку да еўрапейскага ўзроўню. І таму змушана выдаткоўваць сродкі, зробленыя, прыкладам, прамысловасцю, для размеркавання паміж сельскагаспадарчымі арганізацыямі. Пры гэтым большыя грошы выдзяляюцца горшым гаспадаркам.

Пра такую палітэканамічную пастку пісалі яшчэ эканамісты-класікі, і эканамісты-перабудоўшчыкі, але сучасныя беларускія аграрыі не звярнулі ўвагі на гэтыя папярэджванні. Яны, мусіць, разлічвалі, што ўсе галіны народнай гаспадаркі запрацуюць прыбыткова, таму грошы на датацыі аграрнікам ніколі не скончацца. Ды пралічыліся.

Сярод мноства сваіх цудоўных адметнасцяў, грошы маюць здольнасць знікаць тады, калі яны патрэбны больш за ўсё. Зараз, прыкладам, пачалася пасяўная кампанія, калі сельская гаспадарка патрабуе падвышанага фінансавання, а яна не мае магчымасці разлічыцца нават па сваіх мінулых абавязках. Ні з партнёрамі, якія не атрымалі аплаты за зробленыя ўжо работы, ні з пастаўшчыкамі за паліва і ўгнаенні, ні з банкамі.

Адзначым, што гэта не дзіва. Не дзіва і тое, што грошы скончыліся і ў іншых галінах.

Адкуль, напрыклад, з'явяцца прыбыткі на Мінскім матавелазаводзе, дзе за студзень-люты выраблена 32 матацыклы і мотакаляскі — 2,3% ад узроўню вытворчасці студзеня-лютага 2014 года. І пры гэтым у складскіх запасах «завісла» 1141 матацыкл, што ў 71,3 разы перавышае сучасны сярэднемесячны памер вытворчасці.

Вось такія, як раней казалі, «кропкі росту». Яны ўжо даўно ператварыліся ў «кропкі падзення». Прычым, крутога. У студзені бягучага года прамысловыя прадпрыемствы замест прыбыткаў атрымалі 30,3 трыльёна рублёў выдаткаў. Каб уявіць маштаб падзення, трэба ўспомніць, што яшчэ ў студзені мінулага года прадпрыемствы галіны атрымалі хоць невялікія, але прыбыткі ў 700 мільёнаў рублёў.

Вельмі ўражвае дынаміка. Прыкладам, колькасць стратных прадпрыемстваў павялічылася ў 1,59 разу (з 536 да 852, з 29,1% да 46,2%). Сума чыстых страт стратных прадпрыемствах вырасла ў 26 разоў. Няма нічога дзіўнага, што сумарная запазычанасць дасягнула 378,36 трыльёна рублёў і ў 6,5 разоў перавысіла выручку прадпрыемстваў ад рэалізацыі прадукцыі.

Як сказаў бы былы прэм'ер Мясніковіч, прамысловасць мае кепскую эканоміку. Прыкладам, статыстыка сведчыць, што з усіх прамысловых цэнтраў, добрыя фінансы мае толькі Салігорск. Пазіцыі звычайна ўстойлівых Наваполацка і Мазыра пахіснуліся з падзеннем цэн на нафтапрадукты. У Мінску рэзка скарацілася вытворчасць, пры гэтым складскія запасы падвысіліся да 142,5%, экспарт паменшыўся на 24,9%, а імпарт — на 45%.

Такім чынам, амбіцыёзныя праграмы трэба адкласці на лепшую будучыню. Калі яна наступіць. Бо Жодзіна, падаецца, перажывае класічную клінічную смерць. Тут складскія запасы падвысіліся ў 6,5 разоў, колькасць стратных прадпрыемстваў — да 45,3% ад агульнай колькасці. Насельнікі горада амаль спрэс «прывязаныя» да БелАЗа, а той не дэманструе памкненняў да жыцця.

Па колькасці стратных прадпрыемстваў прамысловасць ужо абагнала сельскую гаспадарку. Калі б яе пазбавілі датацый, то ў ліку стратных апынуліся б толькі 40%. Да таго ж сельская гаспадарка амаль не мае звышнарматыўных запасаў гатовай прадукцыі. Яе прадукцыя ці прадаецца яшчэ авансам, ці адразу ідзе з поля на прылавак, ці, як малако, з калёс малакавоза да заводскага сепаратара.

У прамысловасці ці не адзінае выключэнне — прадукцыя салігорскіх шахцёраў, якая амаль уся прадаецца загадзя, па кантрактах. Але ж выцягнуць на сабе ўсю эканоміку Беларусі Салігорск не здольны.



**У беларускай адукацыі існуе аўтарытарная мадэль кіравання. Таму варта забяспечыць легітымнае фармаванне і паўнавартаснае функцыяванне органаў самакіравання ва ўстановах адукацыі**

# Свабода ў абмен на Балонскі працэс?

Віктар ЛІСТАПАДАЎ,
zautra.by

**Міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў атрымаў запрашэнне на пасяджэнне міністраў адукацыі краін агульнаеўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі, якое пройдзе 14–15 мая ў Ерэване. Ускосна гэта азначае, што папярэдняе рашэнне па пытанні ўступлення Беларусі ў Балонскі працэс станоўчае.**

## Адной нагой у Балонскім працэсе?

Улады Беларусі з поспехам разыгралі геапалітычную карту, звярнуўшы на сваю карысць канфлікт Расіі і Украіны. Зараз еўрапейскія чыноўнікі глядзяць на Беларусь іншымі вачыма. А дырэктар дэпартамента па адукацыі Савета Еўропы Шур Берган лічыць, што ў любым выпадку «палітычная сітуацыя ў краіне больш спрыяльная, чым у 2012 годзе, калі Беларусі адмовілі ва ўступленні ў Балонскі працэс».

У сваю чаргу міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў не раз заяўляў, што Беларусь гатова да ўступлення ў Балонскі працэс, што супярэчнасцяў паміж прынцыпамі Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі і адукацыйнай палітыкай нашай краіны няма.

Аднак у экспертнай супольнасці распаўсюджана меркаванне пра тое, што Беларусь не ў поўнай меры выконвае прынцыпы Балонскага працэсу, такія, як акадэмічная свабода, інстытуцыйная аўтаномія і студэнцкі ўдзел у кіраванні вышэйшай адукацыяй.

Для правядзення рэформаў у адукацыі Беларусі, перш за ўсё, патрэбна мадэрнізацыя заканадаўства.

Эксперт Грамадскага Балонскага камітэта Вольга Крыжаноўская прапануе распрацаваць Канцэпцыю развіцця сістэмы адукацыі Беларусі, зрабіўшы ў ёй акцэнт на рэфармаванні адукацыйнай палітыкі з улікам пазітыўнага вопыту развіцця сістэм адукацыі замежных краін.

— Для запуску рэформаў у сістэме адукацыі трэба ўнесці змены і дапаўненні ў дзеючы Кодэкс Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі», выключыўшы дырэктыўныя нормы і загады, якія перашкаджаюць эфектыўнаму развіццю сістэмы адукацыі. Неабходна таксама ўзгадніць утрыманне базавых тэрмінаў з дакументацыяй Балонскага працэсу, — лічыць эксперт.

У беларускай адукацыі існуе аўтарытарная мадэль кіравання, падкрэслівае Вольга Крыжаноўская. Для паляпшэння якасці трэба будзе кардынальна змяніць прынцыпы фарміравання адукацыйнай палітыкі.

— Варта забяспечыць легітымнае фармаванне і паўнавартаснае функцыянаванне органаў самакіравання ва ўстановах адукацыі, у тым ліку студэнцкага самакіравання, а таксама ўдзел у кіраванні іншых зацікаўленых бакоў (стэйкхолдэраў), надзяліўшы іх на заканадаўчым узроўні адпаведнымі правамі і адказнасцю, — прапаноўвае Вольга Крыжаноўская.

Забяспечыць прадстаўленне грамадскіх інтарэсаў ва ўстановах адукацыі маглі б апякунскія рады або падобныя ім кіруючыя органы з адпаведнымі паўнамоцтвамі.

— У Беларусі неабходна ўвесці Нацыянальную сістэму кваліфікацый, якая ўключае Нацыянальную рамку кваліфікацый, прафесійныя стандарты і адпаведныя прылады і цэнтры ацэнкі эфектыўнасці і якасці адукацыі. Важна, каб была арыентацыя на навыкі, неабходныя не толькі для функцыянавання наяўных састарэлых вытворчасцей, але і для мадэрнізацыі эканомікі Беларусі, — гаворыць эксперт.

Для ўмацавання сацыяльнага вымярэння сістэмы адукацыі Беларусі экспертная супольнасць прапануе забяспечыць даступнасць адукацыі для ўсіх, уключаючы асоб пажылога ўзросту і непрацаздольнае насельніцтва. Для развіцця інклюзіўнай адукацыі — замацаваць на заканадаўчым узроўні такое паняцце і яго змест. І каб гэта было не дэкларатыўна, распрацаваць і ўкараніць дзяржаўную праграму абсталявання ўстаноў адукацыі адмысловымі тэхнічнымі і матэрыяльнымі сродкамі для навучання людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

## Кодэкс супраць прынцыпаў

Вольга Крыжаноўская агучыла на канферэнцыі «Мадэрнізацыя сістэмы адукацыі Беларусі: надзеі і расчараванні», напрацоўкі Грамадскага Балонскага камітэта па зменах у Кодэксе аб адукацыі. Прапануецца, напрыклад, павялічыць працягласць навучальнага года на два тыдні, а колькасць заняткаў у дзень абмежаваць шасцю акадэмічнымі гадзінамі, прывесці ў лагічны парадак сістэмы ацэньвання, а таксама павялічыць да 4 класу тэрмін забароны на фармальныя адзнакі.

Для павышэння якасці адукацыі эксперты рэкамендуюць сфармаваць на базе прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі новы адукацыйны ўзровень — сярэднюю прафесійную адукацыю. Гэта дасць магчымасць павысіць прэстыжнасць прафесійна-тэхнічнай адукацыі і аптымізаваць колькасць адукацыйных праграм.

Эксперт прапануе забяспечыць сувязь прымяняемых метадаў і крытэрыяў з сучаснымі распрацоўкамі, у тым ліку ў вышэйшай школе з ENQA (некамерцыйная арганізацыя, якая ажыццяўляе незалежны кантроль навучальных установ).

— Неабходна выкарыстоўваць сучасныя інструменты забеспячэння якасці, якія спрыяюць празрыстасці і ўзаемнаму прызнанню ступеняў, такія, як Еўрапейская сістэма перакладу і назапашвання крэдытаў (ECTS), Дадатак да дыплома (DS). Важна, каб школьнікі ўдзельнічалі ў міжнароднай праграме ацэнкі якасці падрыхтоўкі PISA (Programme for International Student Assessment), якая дазваляе ацаніць шэраг ключавых уменняў 15-гадовых школьнікаў, — лічыць Крыжаноўская.

На думку экспертнай супольнасці, для адпаведнасці прынцыпам Балонскага працэсу неабходна заканадаўча замацаваць права ўстаноў адукацыі на інстытуцыйную (арганізацыйную, фінансавую, кадравую і акадэмічную) аўтаномію і акадэмічную свабоду (свабоду думкі, меркаванняў, выказванняў, асацыяцый, перамяшчэнняў і выкладання) у адпаведнасці з каштоўнасцямі Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі.

У сферы вышэйшай адукацыі эксперты прапаноўваюць распрацаваць прававыя нормы і правілы, якія ўлічваюць еўрапейскую практыку ў галіне развіцця вышэйшай адукацыі і акадэмічнай мабільнасці:

— Напрыклад, забяспечыць празрыстасць адборачных працэс кандыдатаў па праграмах мабільнасці з прыцягненнем незалежных экспертаў і грамадскасці без татальнага дзяржаўнага кантролю. Важна прывесці структуру вышэйшай адукацыі ў адпаведнасць з трохступенчатай Балонскай мадэллю (бакалаўрэят — магістратура — дактарантура), уключыўшы ў яе і пачатковую вышэйшую адукацыю (кароткі цыкл). Улічваючы спецыфіку беларускай вышэйшай школы, сфармаваць дзве праграмы трэцяй ступені вышэйшай адукацыі: адукацыйна-навуковую (аспірантура, ад'юнктура), якая завяршалася б прысваеннем навуковай ступені кандыдата навук (доктара філасофіі), і навуковую (дактарантура) з прысваеннем навуковай ступені доктара навук.

## Вярнуць навуку

Эксперт Грамадскага Балонскага камітэта Андрэй Лаўрухін адзначае: у Беларусі з 2007 года прымаюцца Дзяржаўныя праграмы інавацыйнага развіцця, аднак уключэнне ВНУ ў гэты працэс абцяжарана з-за вывядзення даследчых праграм у «сістэму паслявузаўскай адукацыі». Ды і фінансаванне навукова-даследчай дзейнасці ў сектары вышэйшай адукацыі Беларусі нязначнае. У 2011 годзе яно склала 0,06% да ВУП.

Пры гэтым сярэдняя доля выдаткаў у трацічным сектары адукацыі на даследаванні і інавацыі ў краінах Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця вагаецца ад 0,2% у такіх краінах, як Чылі (0,17%) і Славакія (0,12%), да больш 0,6% у Фінляндыі (0,74%), Швейцарыі (0,72%) і Швецыі (0,94%).

У Беларусі адсутнічае дыферэнцыяцыя ВНУ на даследчыя і адукацыйныя. Няма і механізмаў стымулявання даследчага складніку вышэйшай адукацыі ні для выкладчыкаў, ні для студэнтаў.

Адбываецца перманентнае скарачэнне, старэнне і пагаршэнне кваліфікацыйнай структуры прафесарска-выкладчыцкага складу ВНУ Беларусі. У 2014 годзе доля прафесарска-выкладчыцкага складу дзяржаўных ВНУ ва ўзросце да 39 гадоў складала для кандыдатаў навук — 23%, дактароў навук — 1%. Дактароў навук, старэйшых за 65 гадоў — 36%, старэйшых за 60 — 54%, старэйшыя за 50 — 88%.

Фінансуецца навуковая дзейнасць ВНУ пераважна з бюджэту. Гэта негатыўна адбіваецца на матывацыі ВНУ даследчыкаў.

— У Беларусі няма рэлевантнай міжнародным патрабаванням сістэмы ацэнкі навуковай і рынкавай значнасці вынікаў дзейнасці ВНУ. Гэта робіць немагчымай канкурэнцыю як натуральны механізм выбракоўкі неэфектыўных ВНУ і спрыяе стагнацыі, росту кланавасці і карупцыі ў акадэмічным і навуковым асяроддзі, — адзначае Андрэй Лаўрухін.

Вярнуць навуку ў беларускія ВНУ, на думку незалежных экспертаў, можа толькі змена заканадаўства. У Кодэкс аб адукацыі яны прапануюць унесці палажэнні аб дыферэнцыяцыі ВНУ па профілях і ўключыць туды статус ВНУ «Даследчы ўніверсітэт».

Рэформы, якія спрыяюць развіццю даследчых праграм і ўніверсітэцкай навукі, прапануецца праводзіць у трох напрамках і ў тры этапы.

— Па-першае, увесці ва ўсіх установах вышэйшай адукацыі гнуткую, максімальна індывідуалізаваную сістэму стымулявання даследчай дзейнасці прадстаўнікамі прафесарска-выкладчыцкага складу, — прапаноўвае Андрэй Лаўрухін. — Па-другое, абвясціць адкрыты конкурс магістэрскіх, аспіранцкіх і дактаранцкіх даследчых праграм, а таксама даследчых цэнтраў і інстытутаў. І, нарэшце, распрацаваць дзяржаўную праграму развіцця нацыянальных даследчых універсітэтаў.

Грамадскі Балонскі камітэт лічыць неабходным аб'явіць рэспубліканскі конкурс на статус Даследчага ўніверсітэта, пераможцу якога будзе прадастаўлена дадатковае мэтавае дзяржаўнае фінансаванне, а таксама права правесці перамеркаванне педагагічнай і навуковай нагрузкі для ўзмацнення даследчага складніку.

Эксперты раяць перайсці ад бюджэтнай да грантавай (пастарнай) мадэлі фінансавання на падставе рэйтынгаў ВНУ па выніках публікацыйнай актыўнасці.

Ці стануць у Міністэрстве адукацыі разглядаць заканадаўчыя ініцыятывы экспертаў, залежыць шмат у чым ад таго, ці будзе прапанаваная Беларусі дарожная карта імплементацыі еўрапейскіх каштоўнасцяў у сферы адукацыі пры ўступленні ў Балонскі працэс. Калі карту прапануюць, будуць і перамены да лепшага, перакананыя прадстаўнікі Грамадскага Балонскага камітэта. Інакш уваходжанне ў Балонскі працэс можа апынуцца фармальнасцю.

**Пераклад НЧ**

TV

## 20 КРАСАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**05.55** Мастацкі фільм «Я побач».
**09.00** Навіны.
**09.15** Мастацкі фільм «Вій».
**12.00** Навіны.
**12.10** Тэлесерыял «Забіць Сталіна».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**16.05** Мастацкі фільм «Лёс».
**17.30** Мастацкі фільм «Берагі».



**21.00** Панарама.
**21.40** Тэлесерыял «Я цябе кахаю..».
**23.30** Мастацкі фільм «Знайдыш 2».
**02.40** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэндa».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.40** «Трын-трава». Мастацкі фільм.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.10** Здабытак Рэспублікі.
**00.15** «Шлюбная дамова». Мастацкі фільм.



### СТВ

**06.15** «Неверагодная каханне». Мастацкі фільм.
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.25** «За гарызонтам часу».
**10.20** Далёкія сваякі.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры сродак».
**14.40** «Дакументальны праект».
**16.40** Таямніцы свету з Ганнай Чапман.
**16.30** «24 гадзіны».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.30** Тэлесерыял «Мяжа часу».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.05** «Ваенная таямніца».
**22.20** «Загадкавая гісторыя Бенджаміна Батана».
**01.10** Тэлесерыял «Мяжа часу».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Мультсерыял.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.50** Кіпень.
**11.10** Тэлесерыял «Мама -дэтэктыў».
**13.15** Турыст.
**14.00** Мастацкі фільм «Хуткасць».



**16.00** Мастацкі фільм «Хуткасць 2».
**18.15** Comedy woman.
**19.20** Рэаліці-шоу «Хачу ў тэлевізар».
**19.55** Футзала. Чэмпіянат свету.
**21.10** Цела чалавека.
**21.40** КЕНО.
**21.45** Тэлебарометр.
**21.50** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.40** Тэлесерыял «Як я сустрэў вашу маму».
**00.10** Серыял «Быць чалавекам».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабрананак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**08.35** «Адзінка «з падманам». Сямейная камедыя (СССР, 1984 г.).



**09.45** «Культпрасвет».
**10.25** «Хаос». Меладрама (Італія-Францыя, 1984 г.).
**13.25** Калейдаскоп.
**13.35** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Парашуты на дрэвах». Ваенна-прыгодніцкі фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1973 г.).
**15.45** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Апошні з групы «Джэк». Дакументальны фільм пра Генадзя Юшкевіча, удзельніка разведвальна-дыверсійнай групы «Джэк».
**16.35** «Персона». Андрэй Федарцоў.
**16.45** «Гвездзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.30** «Дыя@блог». «Пра мову».
**17.55** «Чорная курыца, ці Падземныя жыхары». Фантастычная прытча (СССР, 1980 г.).
**19.05** Калейдаскоп.
**19.15** «Спакуса». Меладрама (Беларусь, 2006 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.00** «Дыя@блог». «Пра мову».
**21.30** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**22.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**22.50** «Без эпітафіі». Дакументальны фільм аб трагічным лёсе пісьменніка і грамадскага дзеяча Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага).
**23.40** «Персона». Уладзімір Далінскі.
**00.00** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Уругвай - Аўстралія.
**09.05** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Дынама» (Мінск) - БАТЭ (Барысаў).
**10.55** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**13.00** Хакей. КХЛ. Фінал. Пяты матч. «Ак Барс» - СКА.
**14.55** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Парагвай - Бельгія.
**16.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Сіці» - «Вэст Хэм».
**17.55** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Уругвай - Бразілія. Прамая трансляцыя.
**19.10** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**20.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**21.50** Час футболу.
**22.35** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Беларусь - Аўстралія.
**23.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Манчэстар Юнайтэд».
**01.40** Еўрапейскі покерны тур.
**02.35** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**04.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.35** Форум (ток-шоу).
**08.15** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** «Блокпост «Грозны», рэпартаж.
**09.10** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**10.00** «Забойства ў Сараеве», дак. фільм.
**11.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.30** «Госці», дак. фільм.
**13.30** «Джэкі без Джэка», дак. фільм.
**14.25** Кінаклуб: «Зімовая костка».
**14.35** «Зімовая костка», маст. фільм.
**16.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**17.05** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**17.50** Мова нанова.
**18.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.30** «Пах смерці», дак. фільм.
**19.05** Форум (ток-шоу).
**19.45** «Зямля памерлых», рэпартаж.
**20.00** «Нэлсан Мандэла: жыццё дзеля свабоды», дак. фільм, 2013 г., Аўстрыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**21.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**22.05** Кінаклуб: «Зімовая костка».
**22.15** «Зімовая костка», маст. фільм.
**23.55** Студыя «Белсат».
**00.05** «Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні», дак. фільм.
**01.50** «Экзарцызмы Анэлізэ Міхэль», дак.

## 21 КРАСАВІКА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Мастацкі фільм «Дзяўчынка шукае бацьку».



**09.00** Навіны.
**09.10** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.25** Тэлесерыял «Я цябе кахаю..».
**11.05** Тэлесерыял «Забіць Сталіна».
**12.00** Навіны.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**17.15** Нашы.
**17.30** Мастацкі фільм «Я побач».
**21.00** Панарама.
**21.40** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Мастацкі фільм «Крэўныя повязі».
**23.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**01.30** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Мультфільм.
**10.20** «Белыя росы». Мастацкі фільм.



**10.55** «Белыя росы. Вяртанне». Мастацкі фільм.
**12.50** «Нябесны суд». Мастацкі фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Нябесны суд». Мастацкі фільм.
**16.50** «Нябесны суд. Працяг». Мастацкі фільм.
**20.30** Нашы навіны.
**21.05** «Вайна машын».
**21.40** «Выгнанне». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.10** «Дакументальны праект».
**07.50** «Загадкавая гісторыя Бенджаміна Батана».



**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры сродак».
**14.45** «Сустрэчная плынь». Тэлесерыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.40** Таямніцы свету з Ганнай Чапман.
**17.35** «Званая вячэра».
**18.30** Тэлесерыял «Мяжа часу».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.05** «Пра Шміта». Мастацкі фільм.
**22.15** «Рай асуджаных».
**23.10** «Сустрэчная плынь». Тэлесерыял.
**00.40** Дакументальны праект.
**01.30** Тэлесерыял «Мяжа часу».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.30** «Дыверсант. Канец вайны». Мастацкі фільм.
**10.55** Тэлебарометр.
**11.00** Беларуская кухня.
**11.35** «Мой восеньскі блюз». Мастацкі фільм.



**13.30** «Тытанік». Мастацкі фільм.
**16.45** «Хуткасць». Мастацкі фільм.
**18.50** « Хуткасць 2». Мастацкі фільм.
**21.00** Цела чалавека.
**21.30** Спортлато 6 з 49.
**21.35** КЕНО.
**21.40** Футбол. Баварыя - Порту.
**21.25** Тэлебарометр.
**23.50** Тэлесерыял «Як я сустрэў вашу маму».
**00.15** Серыял «Быць чалавекам».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Размовы пра духоўнае».
**08.20** «Беларускі народны каляндар. Радаўніца».
**08.30** «Гісторыя Тома Джонса Знайдыша». Драма. 5-я серыя (Вялікабрытанія, 1997 г.).



**09.25** «Спакуса». Меладрама (Беларусь, 2006 г.).
**10.50** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**11.20** «Палёты ў сне і наяве». Драма (СССР).
**12.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага мастака Беларусі Валянціна Волкава.
**13.15** Калейдаскоп.
**13.25** «Размовы пра духоўнае».
**13.35** «Калі можаш, прабач...» Меладрама.
**14.55** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**15.25** «Персона». Эдзіта П'еха.
**15.50** «Гвездзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.35** «Вечар памяці тэлежурналіста Аляксандра Чуланава».
**17.25** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**17.50** «Размаўляем па-беларуску».
**17.55** «Гісторыя Тома Джонса Знайдыша». Драма. 5-я серыя (Вялікабрытанія, 1997 г.).
**18.50** Калейдаскоп.
**19.00** «Размовы пра духоўнае».
**19.10** «Данііл - князь Галіцкі». Гістарычная драма (СССР, 1987 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**21.30** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 1-я - 3-я серыі (Расія, 2012 г.).
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага мастака Беларусі Валянціна Волкава.
**00.15** «Персона». Анастасія Мельнікава.
**00.30** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**05.50** PRO спорт. Навіны.
**06.30** PRO спорт. Навіны.
**07.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**08.10** Час футболу.
**08.50** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Беларусь - Аўстралія.
**09.55** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Уругвай - Бразілія.
**10.55** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**13.00** Тэніс. Турнір ВТА. Штутгарт. Прамая трансляцыя.
**17.55** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Бельгія - Нарвегія. Прамая трансляцыя.
**19.20** Хакей. КХЛ. Фінал. Шосты матч. СКА - «Ак Барс». Прамая трансляцыя.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал. Прамая трансляцыя.
**23.40** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Парагвай - Марока.
**00.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал.
**02.35** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**04.55** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** Асабісты капітал.
**07.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**08.00** «Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні», дак. фільм.
**09.40** «Варганы», дак. фільм.
**10.05** «Нэлсан Мандэла: жыццё дзеля свабоды», дак. фільм.
**11.00** «Дом», серыял.
**12.25** Студыя «Белсат».
**12.35** Асабісты капітал.
**13.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**13.30** «Генрых V», маст. фільм.
**15.45** «Дзень памінання», дак. фільм.
**16.10** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**16.55** «Госці», дак. фільм.
**17.50** «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм.
**19.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**19.40** «Цівалі», дак. фільм.
**20.15** «Сваны – каўказскія горцы. Жыццё з продкамі», дак. фільм, 2011 г., Германія.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Два на два (тэледыскусія): Аляксей Лявончык і Алег Ерафееў: Як перамагчы ў інфармацыйнай вайне?
**21.45** «Terra nova – Новая зямля», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**22.05** «Дысідэнт з КДБ», дак. фільм.
**23.00** «Дзень памінання», дак. фільм.
**23.25** Студыя «Белсат».
**23.40** «Вострaў канібалаў», дак. фільм.
**00.35** «Вандроўная ноч», дак. Фільм.

# TV

## 22 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.15** Мастацкі фільм «Крэўныя повязі».
**10.45** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Паўночны фронт» (Расія).
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 2» (Украіна).
**11.00** 90 секунд.
**13.00** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Маша ў законе!».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** Меладрама «20 гадоў без кахання» (Расія).
**11.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 2» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Тэлесерыял «След».
**23.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.00** Навіны.
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Меладрама «20 гадоў без кахання» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Тэхнічная прафілактыка.
**15.00** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Фарца». Шматсерыйны фільм.
**23.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**00.05** «Вячэрні Ургант».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Скразныя раненні». Мастацкі фільм.
**10.10** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Хто памнажае смутак». Серыял.
**15.35** «Мае цудоўныя».
**16.50** «Вовачка 3». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Каханне без перасадак». Маст. фільм.
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.10** «Хто памнажае смутак». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Асабістыя матывы».
**10.05** Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.25** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.00** Вышэй за дах.
**13.50** «Мой восеньскі блюз». Мастацкі фільм.
**15.45** Рэпарцёр.
**17.45** Серыял «Віртуозы».
**18.45** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.10** Футзала. Чэмпіянат свету.
**21.25** Тэлебарометр.
**21.30** Спортлато 5 з 36.
**21.35** «КЕНО».
**21.40** Футбол. Манака - Ювентус.
**23.45** Футбол.
**00.15** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**00.40** Серыял «Быць чалавекам».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Даніiл - князь Галіцкі». Гістарычная драма (СССР, 1987 г.).
**09.45** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.10** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 1-я - 3-я серыі (Расія, 2012 г.).
**12.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Барыса Аракчэева.
**12.55** Калейдаскоп.
**13.05** «Яна абараняе Радзіму». Ваенная драма (СССР).
**14.15** «Наперад у мінулае».
**14.45** «Навукаманія». Перспектывы беларускай навукі XXI стагоддзя.
**15.10** «Лёс гігантаў». «Запарожскі аўтамабілебудаўнічы завод».
**15.40** «Палацы Крамля». Дакументальны серыял. Фільм 1-ы і 2-гі.
**16.35** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.20** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**17.45** «Персона». Аляксандр Разенбаум.
**18.00** Калейдаскоп.
**18.10** «Сведка». Ваенная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1985 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**21.25** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 4-я - 6-я серыі (Расія, 2012 г.).
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Барыса Аракчэева.
**00.05** «Персона». Іван Ахлабысцін.
**00.25** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.15** PRO спорт. Навіны.
**06.45** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Бельгія - Нарвегія.
**07.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал.
**09.40** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Парагвай - Марока.
**10.45** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**12.45** Козел пра футбол.
**13.00** Тэніс. Турнір ВТА. Штутгарт. Прамая трансляцыя.
**17.40** Спорт-кадр.
**18.10** Футзала. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфінал. Прамая трансляцыя.
**19.25** Валейбол. Чэмпіянат Беларусі. Фінал. Пяты матч. БАТЭ-БДЭУ (Барысаў) - «Будаўнік» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал. Прамая трансляцыя.
**23.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал.
**01.25** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** Два на два (тэледыскусія).
**07.40** «Terra nova – Новая зямля», дакументальны. фільм.
**08.00** «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм.
**09.20** «Сваны – каўказскія горцы. Жыццё з продкамі», дак. фільм.
**10.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.20** «Дысідэнт з КДБ», дак. фільм.
**11.15** «Цівалі», дак. фільм.
**11.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**12.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.30** Студыя «Белсат».
**12.40** Два на два (тэледыскусія).
**13.15** «Terra nova – Новая зямля», дак. фільм.
**13.30** «Гётэ!», маст. фільм.
**15.10** «Belsat Fest», канцэрт.
**16.15** «Жыццё ў лепшым свеце», дак. фільм.
**17.10** «Цівалі», дак. фільм.
**17.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкіна.
**21.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.15** 54 % (публіцыстычная праграма): Што можа жанчына-палітык?
**22.40** Форум (ток-шоу).
**23.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.55** «Блокпост «Грозны», рэпартаж.
**00.15** Студыя «Белсат».

## 23 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.15** Тэлесерыял «След».
**10.55** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар» (Расія).
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 2» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Маша ў законе!» (Расія). 2-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** Меладрама «20 гадоў без кахання» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 2» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.10** Тэлесерыял «След».
**23.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.10** Сфера інтарэсаў.
**00.55** Дзень спорту.
**00.30** Навіны.
**01.10** Меладрама «20 гадоў без кахання» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера АНТ «Трэба разабрацца».
**21.25** «Залаты век». Шматсерыйны фільм.
**23.15** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**00.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Монстры». Мастацкі фільм.
**10.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Добры сродак».
**14.50** «Сустрэчная плынь». Тэлесерыял.
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.30** Тэлесерыял «Мяжа часу».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Сабатаж». Мастацкі фільм.
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Сустрэчная плынь». Тэлесерыял.
**00.55** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**01.45** Тэлесерыял «Мяжа часу».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Асабістыя матывы».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** «Тытанік». Мастацкі фільм.
**14.00** Кіпень.
**14.20** Ікра.
**14.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**16.00** Перазагрузка.
**16.45** Дэтэктыў «Асабістыя матывы».
**17.50** Серыял «Віртуозы».
**21.00** Цела чалавека.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 5 з 36.
**21.40** «КЕНО».
**22.00** Футбол.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Жазэф Бальзамо». Гістарычная драма. 1-я серыя (Аўстрыя, Францыя, 1972 г.).
**09.05** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**09.30** "Размаўляем па-беларуску".
**09.35** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 4-я - 6-я серыі (Расія, 2012 г.).
**11.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака-графіка Аляксандры Паслядовіч.
**12.15** Калейдаскоп.
**12.25** «Сведка». Ваенная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1985 г.).
**15.00** «Знакі лёсу. Віктар Казько». Дак. фільм.
**15.30** «Палацы Крамля». Дакументальны серыял. Фільмы 3-ы і 4-ты.
**16.10** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**17.30** «Сіла веры».
**18.00** «Жазэф Бальзамо». Гістарычная драма. 1-я серыя (Аўстрыя, Францыя, 1972 г.).
**18.55** Калейдаскоп.
**19.05** «Начныя пацехі». Камедыйная драма (СССР, 1991 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**21.30** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 7-я і 8-я серыі (Расія, 2012 г.).
**23.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака-графіка Аляксандры Паслядовіч.
**23.25** «Персона». Юрый Лаза.
**23.45** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**05.05** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**07.30** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал. Агляд матчаў у адказ.
**08.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал.
**10.05** Футзала. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфінал.
**11.05** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**13.00** Тэніс. Турнір ВТА. Штутгарт. Прамая трансляцыя.
**19.00** Авертайм.
**19.25** Хакей. КХЛ. Фінал. Сёмы матч. «Ак Барс» - СКА. Прамая трансляцыя.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Чвэрцьфінал. Прамая трансляцыя.
**00.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Чвэрцьфінал.
**01.50** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**11.05** Форум (ток-шоу).
**11.45** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 5: «З М'янмы ў Бангкок».
**12.35** Студыя «Белсат».
**13.05** Асабісты капітал.
**13.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**13.35** Студыя «Белсат».
**15.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.15** 54 % (публіцыстычная праграма).
**16.45** Форум (ток-шоу).
**17.25** «Сваны – каўказскія горцы. Жыццё з продкамі», дак. фільм.
**18.10** «Terra nova – Новая зямля», дак. фільм.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкіна.
**21.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.20** Відзьмо-невідзьмо.
**22.50** «Украіна. Пункт адліку», дак. фільм.
**00.20** Студыя «Белсат».

TV

## 26 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.30** Мастацкі фільм «Закаханы і беззбройны».
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**00.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Мастацкі фільм «Снайпер. Зброя адплаты».
**17.30** Меладрама «Знайдыш 3» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22.55** Мастацкі фільм «Начная фіялка».
**00.40** Камедыя «Кухня» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фаззэнда».
**11.20** «Зваротны адлік».
**11.30** «Брэйн-рынг».
**12.40** Горка !
**13.40** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Тэорыя змовы.
**17.15** «Рыхт-у-рыхт».
**20.00** Контуры.
**21.05** Вызваленая Еўропа.
**22.00** Ідэальнае спатканне.
**23.00** «Вялікія надзеі». Мастацкі фільм.



### СТВ

**06.00** «Студэнты International». Серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.45** «Адвакат д'ябла». Мастацкі фільм.
**10.10** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Салдаты».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.10** «Next». Тэлесерыял.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.15** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Патрыманыя львы». Мастацкі фільм.
**22.25** «Дакументальны праект».
**23.20** Зорны рынг.
**00.15** Масква. Дзень і ноч.
**01.05** «Next». Тэлесерыял.

### Беларусь 2

**07.10** «Экіпаж машыны баявой». Мастацкі фільм.
**08.25** Турыст.
**09.10** Мультсерыял.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.15** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.05** Я хачу гэта ўбачыць!
**12.45** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.20** «Мама - дэтэктыў». Серыял.
**15.15** Фільм.
**17.20** Comedy woman.
**18.20** Ікра.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Футбол.
**21.35** Спортлато 5 з 36.
**21.40** КЕНО.
**21.45** Мастацкі фільм «Гаспадар мораў: На краі Зямлі».



**00.10** Вышэй за дах.
**00.40** Футбол.

### Беларусь 3

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** "Размаўляем па-беларуску".
**08.15** «Развітанне ў чэрвені». Меладраматычная камедыя (Расія, 2003 г.).
**10.30** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Таццяна Салаўёва (Гродна).
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.40** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі.
**12.30** Калейдаскоп.
**12.40** "Размаўляем па-беларуску".
**12.45** «Лёс гігантаў». «Беларуськалій».
**13.20** «Чарнобыльскія джунглі. Сафары ў зоне». Дакументальны фільм.
**13.45** "Размаўляем па-беларуску".
**13.50** «Насмешка». Гістарычная драма (Францыя , 1996 г.).
**15.30** «Прыгоды Карзінкінай». Кароткаметражны фільм (СССР).
**16.05** Калейдаскоп.
**16.15** "Размаўляем па-беларуску".
**16.20** Канцэрт аркестра нацыянальных інструментаў «Церема» (World Music Concert (аркестр «Церема»).
**18.25** «Культпрасвет».
**19.00** «Дарагі мой чалавек». Кінааповесць (СССР, 1958 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Чарнобыльскія джунглі. Сафары ў зоне». Дакументальны фільм.
**21.30** «Чорны бусел». Драма (Беларусь, 1993 г.).
**23.05** «Культпрасвет».
**23.40** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**06.00** PRO спорт. Навіны.
**06.30** Сэлфі.
**06.45** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Шахцёр» (Салігорск) - «Дынама» (Мінск).
**08.30** Футзала. Чэмпіянат свету. Матч за трэцяе месца.
**09.35** Футзала. Чэмпіянат свету. Фінал.
**10.40** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**00.35** Хакей. Еўрачэлендж. Беларусь - Нарвегія.
**14.30** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Чвэрцьфінал. Агляд матчаў у адказ.
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Эвертан» - «Манчэстар Юнайтэд». Прамая трансляцыя.
**17.35** Сэлфі.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Арсенал» - «Чэлсі». Прамая трансляцыя.
**19.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Лакаматыў-Кубань» - «Цмокі-Мінск».
**21.25** Тэніс. Турнір ВТА. Фінал.
**22.40** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**01.00** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет.
**07.50** Казкі для дзетак.
**08.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.00** «Чарнобыль для Еўропы», дак. фільм.
**09.30** Беларусы ў Польшчы.
**09.45** Два на два (тэледыскусія).
**10.20** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.45** Канцэрт «АВ-ВА-аркестру»: ч. 1.
**11.15** Казкі для дзетак.
**11.50** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял.
**12.20** Мова нанова.
**12.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**13.05** ПраСвет.
**13.40** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.30** Відзьмо-невідзьмо.
**15.00** «Добраахвотнікі», дак. фільм.
**15.40** «Ідэальны муж», камедыя.
**17.15** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 6: «З Бангкоку ў Паўднёвы В'етнам».
**18.05** Людскія справы.
**18.40** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.35** «Радыеактыўныя ваўкі», дак. фільм.
**21.30** Кінаклуб: «Барбара».
**21.45** «Барбара», маст. фільм, 2012 г., Германія.
**23.30** «Добраахвотнікі», дак. фільм.
**00.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**01.05** «Чарнобыльскія званы», дак. фільм.
**01.55** «Белы ветразь над Прыпяццю», дак. фільм.

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію пацёкнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Петра супраць Акселя

Алег НОВІКАЎ

**Нямецкая грамадскасць у чарговы раз абвясціла вайну вядучаму нацыянальнаму жоўтаму выданню, газеце «Bild».**




«Мы не прадаем «Bild», «Мы не прадаем «Bild», таму што маем адказнасць за людзей з псіхічнымі хваробамі», «Мы не прадаем «Bild», таму што мы адказныя прадпрымальнікі». Такія надпісы можна было пабачыць на германскіх крамах, запраўках, булачных, кавярнях — там, дзе звычайна ў немцаў прадаецца штодзённая прэса.

Прычынай незвычайнага байкоту стала форма асвятлення «Bild» нядаўняй гучнай авіякатастрофы ў Альпах, дзе разбіўся самалёт нямецкай кампаніі «Germanwings». Каментуючы трагедыю, журналісты «Bild», на думку шмат каго, перайшлі этычныя рамкі, публікуючы і смакуючы фрагменты таго, што засталося ад ахвяраў і капаючыся ў інтымным жыцці сяброўкі пілота, якога вінавацяць у арганізацыі катастрофы.

Найбольш такія журналісцкія прыёмы ўразілі Петру Оберст, сціплую ўладальніцу невялікага газетнага кіёску ў Дзюсельдорфе. Яна размясціла на сайце аднаго з мясцовых выданняў тэкст з абурэннямі, напрыканцы якога заявіла, што на знак пратэсту прыпыняе продаж у сваім шапіку прадукцыі Акселя Шпрынгера, заснавальніка «Bild».

Пост Петры трапіў у сацыяльныя сеткі, дзе выклікаў жывы інтарэс. Яго праглядзела каля двух мільёнаў чалавек, а каля 55 тысяч паставілі знак «спадабалася». Аднак самае цікавае пачалося на наступныя дзень, калі такія ж, як Петра, прадаўцы прэсы пачалі адмаўляцца ад продажу «Bild». Паступова да індывідуальных гандляроў далучыліся рэгіянальныя сеткі распаўсюду.

Не прайшлі міма і левыя СМІ, якія маюць зуб на выданне яшчэ з 1960-х гадоў. Лічыцца, што распачатая на старонках «Bild» кампанія супраць студэнцкага руху падштурхнула нейкага вар'ята-неанацыста да стрэлаў у лідара студэнтаў Рудзі Дучке ў красавіку 1968-га. Навіна пра замах на Дучке выклікала тады стыхійны студэнцкі марш пратэсту да рэдакцыі газеты ў Заходнім Берліне, які выліўся ў спробу яе падпалу.

Для левых палітыкаў і інтэлектуалаў публікацыі «Bild» — не проста гульня на мяжы фолу, а свядомая прымітывізацыя грамадскай думкі. Як толькі выданне ў 1960-х гадах пачало працаваць у сваім жоўтым фармаце, левыя інтэлігенты абвясцілі яму вайну. «Гэта выданне — орган сораму. Кожны, хто бярэ яго ў рукі, павінен быць не прыймальным у грамадстве. Трэба ставіцца настолькі не па-сяброўску да гэтых людзей, настолькі гэта толькі дазваляе закон», — пісаў літаратар Макс Гольд.

Такія ацэнкі могуць падавацца перабольшаннем з улікам таго, што асноўны блок матэрыялаў у «Bild» — гэта скандалы, сенсацыі і забаўкі, якія ў кожным разе максімальна драматызуюцца. Аднак, як даўно кажуць культуролагі, спажыванне падобнага тыпу інфармацыі вельмі хутка прымушае глядзець на сур'ёзныя рэчы з дапамогай прымітыўных газетных клішэ. Напрыклад, адзін з фондаў не так даўно нават абвінаваціў рэдакцыю «Bild» у тым, што яна стварыла нямецкім мусульманам у грамадстве негатыўны імідж.




**Андрэас Любіц, які вінаваты ў смерці 149 чалавек рэйса 9525, на галоўнай старонцы «Bild». Журнал называе яго «серыйным забойцам»**

Дарэчы, яшчэ тады ж, у 1960-я гады, паўстала «Група 47» — саюз пісьменнікаў супраць «Bild», які ўзначаліў вядомы літаратар, цяпер ужо нябожчык Гюнтэр Грас. На мерапрыемствах «Групы 47» прысутнічалі такія зоркі нямецкай інтэлектуальнай сцэны, як Юрген Хабермас, Генрых Бёль або Тэдар Адорна.

Аднак паступова імпэт змагацца супраць флагману жоўтай прэсы ў прагрэсіўнай публікі знік. Па-першае, кожны скандал — гэта хлеб для «Bild». Калі глядзець на загалоўкі і ілюстрацыі ў газеце з канца 1970-х гадоў, складваецца ўражанне, што каманда выдання сама нарываецца на судовыя позывы, каб узняць цікавасць да газеты.

Па-другое, газета абзавялася моцным палітычным лобі. З улікам папулярнасці выдання (гэта самая папулярная ў ЕС жоўтая газета з накладам каля 2 мільёнаў асобнікаў штодня), «Bild» даўно стаў канструктарам думкі правага выбаршчыка, бо традыцыйна выданне Акселя Шпрынгера сімпатызуе правацэнтрыстам. Яшчэ ў 1964 годзе ўпершыню «Bild» заняў адкрытую пазіцыю па адным з законапраектаў і сваімі артыкуламі дабіўся, каб дэпутаты прыехалі з летніх адпачынкаў на пазатэрміновую сесію (!), на якой прагаласавалі за патрэбны закон. Наіўна думаць, што можна зачыніць газету з такім тылам.

Кампанія, арганізаваная Петрай Оберст, — нешта новае ў доўгім супрацьстаянні супольнасці і жоўтай прэсы. Тут і пратэст асобы, якая доўгі час сама была спажыўцом «Bild». Тут і знешне прывабны жэст, калі чалавек сам адмаўляецца ад прыбытку ў імя каштоўнасцяў. Магчыма, сціплай жанчыне сапраўды ўдалося знайсці слабае месца імперыі Шпрынгера. Прынамсі, рэдакцыя «Bild» апошні байкот упарта не каментуе.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Меркаванні экспертаў могуць адрозніваецца ў фармулёўках, але ў дыягназе палітолагі сыходзяцца: пацыент нежыццяздольны, але і лячыцца не асабліва жадае. Сыход Уладзіміра Някляева ні на што не ўплывае, а проста пацвярджае татальную дэградацыю апазіцыі. Вынік выбараў не на карысць апазіцыі ўжо відавочны, але на першым плане цяпер змена парадыгмы развіцця апазіцыйных арганізацый.

**«RFI» (Францыя)**

Заходнія партнёры запрашаюць Лукашэнку прыняць удзел у саміце Усходняга партнёрства, які павінен адбыцца ў маі ў Рызе, аднак просяць вызваліць некалькіх палітвязняў. Калі не лічыць некалькіх асабліва бескампрамісных сяброў ЕС, такіх, як Вялікабрытанія ці Нідэрланды, якія ніколі не прымуць рэжым Лукашэнкі, большасць заходніх суседзяў Беларусі страцілі надзею дачакацца дэмакратычных зменаў у краіне. Яны гатовыя весці дыялог, прынамсі, датуль, пакуль вераць, што такім чынам ён (Лукашэнка) змагаецца за захаванне незалежнасці Беларусі ад уплыву Крамля. Тым не менш, умовы гэтай гульні патрабуюць, што Бацьку давядзецца і далей дэманстраваць «адлігу». Да чаго прывядзе такая «лібералізацыя», прадказаць складана. Услед за адлігай заўсёды пачынаецца паводка. Пытанне толькі ў тым, ці гатовы Бацька да таго, што ўсплыве ў адталай краіне?

**«Экономика сегодня» (Расія)**

Пуцін губляе саюзнікаў не толькі ў Еўропе, але і на тэрыторыі СНД. Агрэсія і напорыстасць расійскага дыктатара працуюць супраць яго. Нават Беларусь — самая блізкая да пуцінскай Расіі краіна на постсавецкай прасторы — пачынае аддаляцца ад Масквы і паступова вядзе працу па збліжэнні з Еўропай. Вялікая верагоднасць, што пасля з'яўлення ў дзелавой газеце «Взгляд» безапеляцыйнага артыкула на тэму таго, што калі Беларусь не ўвойдзе ў склад РФ, яе ліквідуюць па «ўкраінскім» сцэнары, працэс такога збліжэння паскорыцца.

**«Новый рэгион» (Украіна)**

Рана ці позна Лукашэнку давядзецца сысці. Цяпер яму 60 гадоў, і ёсць верагоднасць, што ўжо ў выбарах 2020 года ён удзельнічаць не будзе. А значыць, устае пытанне пра пераемніка. Што цікава, беларускія апазіцыйныя палітыкі ў гэтым згодныя з Лукашэнкам, які кажа, што не бачыць аднаго са сваіх сыноў на гэтай пасадзе. Па іх меркаванні, цяперашні прэзідэнт псіхалагічна зусім не гатовы перадаць уладу іншаму, нават уласнаму сыну».

**«Профиль» (Расія)**

Вельмі сімвалічна, што дэкрэт падпісаны якраз тады, калі прадпрыемствы ў Беларусі сталі масава пераходзіць на няпоўны працоўны тыдзень і пачаліся скарачэнні. У гэтым кантэксце дакумент выглядае мерай ужо не толькі эканамічнай, але і палітычнай. Калі мяжа паміж беспрацоўем і дармаедствам сціраецца, становіцца дадатковым стымулам пераседзець крызіс хай і на галодным пайку, затое на працоўным месцы.

**«Капитал» (Казахстан)**

Еўрапейскія чыноўнікі прызнаюць, што палітыка грэбавання проста замкне Беларусь на Расіі. Акрамя таго, паводзіны расійскага прэзідэнта ва Украіне павялічыла стаўкі, паколькі Лукашэнка паказвае на Пуціна, маўляў, «ёсць дыктатары горшыя, чым я, ці не так?». ЕС пераасэнсоўвае свае падыходы ў адносінах да Беларусі. Гэта не значыць, што Еўрасаюз адмовіцца ад заклікаў да дэмакратыі ці перастане выяўляць салідарнасць з беларускай апазіцыяй. Разглядаюцца спосабы для працы з рэжымам Лукашэнкі: ад візавых пытанняў да падтрымкі сяброўства Беларусі ў Сусветнай гандлёвай арганізацыі.

**«Economist» (Вялікабрытанія)**

Украінскі Майдан пахаваў беларускую Плошчу — стаўку на масавы вулічны пратэст, без якога, па перакананні шматлікіх беларускіх аналітыкаў, змена ўлады ў Мінску немагчымая. «Плошчы» — ці Майдана — баяцца напалоханы беспарадкамі абывацель, баяцца ўражаны ўкраінскім эканамічным крызісам беларускі бізнесмен, баіцца грамадзянін, які перажывае за беларускі суверэнітэт. Асцярога ці нават адказнасць за лёс радзімы — аргумент, які дапамагае «захаваць твар» беларускай апазіцыі, якая разумее, што на пратэстны мітынг сёння не выйдзе ні напалоханы абывацель, ні бізнесмен.

**BBC (Вялікабрытанія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Днепрапятроўск стане Махнаградам?

Паводле прынятага ва Украіне закона пра дэкамунізацыю, з карты павінны знікнуць дзясяткі назваў населеных пунктаў, а з планаў гарадоў — сотні назваў вуліц. Найбольш цяжка з Днепрапятроўскам, які да перайменавання называўся Екацярынаслаў у гонар расійскай царыцы Кацярыны Другой. Паколькі вяртанне да імперскай назвы немагчымае, прапануюцца новыя варыянты — Січаслаў, Днепр, Днепрасіці і нават Махнаград. Між тым, з улікам таго, што грошы на новыя назвы павінен даваць далёка не багаты мясцовы бюджэт, чыноўнікі прапанавалі новы варыянт. Сэнс у тым, каб пакінуць усё, як ёсць, а слова «Днепрапятроўск» разумець як звязанае з евангельскім персанажам — Святым Пятром, а не з бальшавіком Рыгорам Пятроўскім. Тым больш, што імя «Пётр» паходзіць ад слова «камень», а ў Днепрапятроўску тых камянёў сапраўды вельмі шмат. Застаецца сказаць, што калі Екацярынаслаў перайменоўвалі ў Днепрапятроўск, бальшавікам таксама было цяжка знайсці ідэальны варыянт. Тады горад думалі назваць таксама Пралетарыятаслаў або Металіст.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Шляхта супраць еўрафобіі

Янэк Жылінскі — польскі арыстакрат, які жыве ў Лондане, вырашыў пакласці канец ксенафобскай прапагандзе з боку Партыі незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства. Агрэсіўная рыторыка на адрас мігрантаў, у тым ліку польскіх гастарбайтэраў, — даўно ужо выбарчая фішка паліттэхналагаў партыі, лідарам якой з'яўляецца Найджэл Фарадж. А чым бліжэй да парламенцкіх выбараў, тым атакі «незалежнікаў» на іншаземцаў усё больш вострыя. Не так даўно Фарадж абвінавацім мігрантаў у тым, што яны стварылі корак на адной з трас. Гэта перапоўніла мяжу трывання Жылінскага. У адказ ён выклікаў Фараджа на дуэль. А ў якасці сур'ёзнасці сваіх намераў нават прадэманстраваў сямейны меч. Ролік з выклікам на дуэль, выкладзены на Youtube, уразіў Наджэла Фраджа. Ён паабяцаў дастаць меч не горшы, чым у шляхціца, а таксама заклікаў князя задумацца пра лёс Польшчы, якая праз міграцыю на Альбіён губляе сваіх лепшых сыноў і дачок.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Ці будзе Народная Рэспубліка Мегрэлаў?

Грузінская прэса выказвае трывогу з-за некаторых апошніх працэсаў на тэрыторыі Абхазіі, якая, як вядома, па сутнасці ёсць пратэктарам Расіі. У школах Гальскага раёна, дзе жыве шмат этнічных грузін, пачалі актыўна выкладаць мову мегрэлаў (адзін з субэтнасаў, якія фармуюць грузінскую нацыю). Выкладанне ідзе па падручніках, якія надрукаваныя ў Краснадары. Пры гэтым грузінскую мову ў школах даўно не выкладаюць. Ходзяць чуткі, што ў Сухумі рыхтуецца запуск канала на мегрэльскай мове. Адзінае, што не могуць зразумець у Тбілісі, — у чым мэта гэтага флірту з мегрэламі. Ёсць думка, што абхазскім грузінам проста хочуць навязаць мегрэльскую ідэнтычнасць і вырашыць грузінскае пытанне ў Абхазіі. Другая версія — Масква дасылае Тбілісі чорную мету, намякаючы, што можа ў любы момант выступіць у абарону правоў мегрэлаў, якія жывуць на тэрыторыі заходняй Грузіі. Цяжка сказаць, наколькі рэальны такі варыянт з улікам таго, што ў мінулым мегрэлы, напрыклад, Звіяд Гамсахурдыя, былі самымі заўзятымі прыхільнікамі адзінства Грузіі.

**Паводле грузінскай прэсы**

### БРАЗІЛІЯ. Гучаць заклікі да путчу

Удзельнікі антыпрэзідэнцкіх пратэстаў у Бразіліі агучылі новы лозунг. На масавых дэманстрацыях, што прайшлі па ўсёй Бразіліі, можна было пабачыць не толькі транспаранты з крытыкай ураду за карупцыю, аднак таксама банеры заклікамі да вайскоўцаў. Жаўнераў просяць паўтарыць вайсковы пераварот, накшталт таго, які меў месца ў 1964 годзе, па выніках якога да 1985-га ў Бразіліі кіраваў вайсковы рэжым. Адной з падстаў для путчу быў разгул пры дэмакратах карупцыі, якую абяцалі знішчыць вайскоўцы. Натуральна, асаблівых прарываў у гэтай галіне ў іх не было, аднак міф пра тое, што карупцыя баіцца моцнай рукі, застаўся. Палітолагі лічаць, што звароты да вайскоўцаў — хутчэй жарт, і пагрозы путчу няма ў тым ліку таму, што той пераварот рыхтаваўся з дапамогай ЗША. Таксама яны звяртаюць увагу на тое, што маштаб пратэстаў ужо не такі вялікі, як быў нядаўна, калі на вуліцах было каля 10 мільёнаў. Акрамя таго, толькі 44 працэнты бразільцаў лічаць, што прэзідэнт Дзілма Русэф павінна пайсці ў адстаўку.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Адзін з самых важных дзён

*Алег НОВІКАЎ*

**У Грузіі 14 красавіка адсвяткавалі Дзень роднай мовы. Гэта свята было заснаванае ў памяць пра падзеі 14 красавіка 1978 года, калі Грузію ахапілі масавыя выступы ў абарону роднай мовы.**

Як вядома, у савецкія часы канстытуцыйны працэс у цэнтры і ў саюзных рэспубліках ішоў значна павольней, чым зараз. «Па просьбах працоўных» уносіліся змены або прымаліся абсалютна новыя рэдакцыі асноўных законаў. Асаблівых рэакцый у грамадстве рэформы заканадаўства не выклікалі, паколькі на прававыя кампетэнцыі грамадзян не ўплывалі. У гэтым плане тое, што адбылося ў Грузіі ўвесну 1978 года, выглядае як нонсенс.

Выступам у абарону мовы папярэднічала прынясце ў 1977 годзе чарговай канстытуцыі СССР, пад якую з часам пачалі падганяць асноўныя законы ў саюзных рэспубліках. Паводле новай рэдакцыі канстытуцыі Грузінскай ССР, таксама мяняўся «моўны» артыкул. Паводле варыянту папярэдняй Канстытуцыі 1937-га года, адзінай афіцыйнай мовай у ГССР абвяшчалася грузінская. Новая версія нічога не казала пра дзяржаўную мову, затое падкрэслівала, што рэспубліка забяспечвае ўжыванне рускай мовы ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах.

Заблытаная і незразумелая трактоўка месца грузінскай мовы ў заканадаўстве была ўспрынятая сярод тбіліскіх студэнтаў як замах на яе афіцыйны статус. Напрыканцы сакавіка ў тбіліскіх ВНУ пачаліся першыя акцыі супраць рэформы, якія дасягнулі свайго апагея 14 красавіка, калі Вярхоўны савет ГССР павінен быў ратыфікаваць праект новай рэспубліканскай канстытуцыі.

У той дзень каля 20 тысяч чалавек рушылі ва ўрадавы квартал. Міліцыя здолела часткова блакіраваць марш, аднак пяць тысяч чалавек усё роўна прарваліся да Дома ўраду, які на гэты час быў акружаны вайсковымі часткамі. Да маніфестантаў з будынку выйшаў асабіста першы сакратар грузінскай кампартыі Эдуард Шэварнадзэ і нагадаў пра трагедыю 1956 года, калі ў Тбілісі была гвалтоўна разагнаная студэнцкая акцыя супраць дэсталінізацыі (шмат хто ў Грузіі тады лічыў, што хрушчоўская «адліга» — гэта зняварга іх земляка Іосіфа Сталіна і ўвогуле ўсіх грузін). Будучы асвісталым натоўпам, Шэварнадзэ адразу звязаўся па тэлефоне з Крамлём і пераканаў цэнтр пакінуць злашчасны артыкул у пакоі.

Вярнуўшыся ў залу, Шэварнадзэ зачытаў дэпутатам наступны варыянт тэксту 75-га артыкула новай канстытуцыі Савецкай Грузіі: «Дзяржаўнай мовай Грузінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца грузінская мова...»

Дыпламатычны такт Шэварнадзэ з часам выклікаў дэбаты адносна ролі кіраўніцтва кампартыі ў тых падзеях. Некаторыя сцвярджаюць, што мясцовая партакратыя негалосна падтрымлівала пратэсты, намагаючыся рукамі студэнтаў дабіцца большай аўтаноміі ад цэнтру. Сапраўды, грузінская камуністы спачатку інфармавалі Брэжнева, што ніякіх пратэстаў няма, дазволіўшы ім набыць маштаб. Мауляў, маюць места праявы «ініцыятыў моладзі». Масква, быццам, пасля красавіка 1978 года надала Шэварнадзэ карт-бланш на кіраўніцтва рэспублікай.

Іншыя лічаць, што красавіцкія падзеі 1978-га былі абмоўленыя не канспіралогіяй грузінскіх апаратчыкаў, а зменамі ў светапоглядзе грузінскага грамадства ў 1960–1970-х гадах XX стагоддзя. Менавіта ў гэты перыяд значная частка грузінскага грамадства, асабліва інтэлігенцыя і студэнцкая моладзь, стала на пазіцыі нацыянальнага адраджэння.

Таксама няма адзінага погляду на наступствы «моўнай рэвалюцыі». Грузінскія патрыёты лічаць, што без масавых выступаў увесну 1978 года, шлях да незалежнасці быў больш доўгі. Перамога 1978 года змяніла погляд, у тым ліку сярод эліты, на карысць нацыянальнай ідэі. Пасля 1978 года масавыя антысавецкія дэманстрацыі сталі частай з'явай у жыцці ГССР. Ёсць думка, што беспарадкі ў Грузіі вельмі паўплывалі на настроі кіраўніцтва іншых саюзных рэспублік, якія зразумелі, што метраполіі можна паспяхова супрацьстаяць. Не дарма Масква стала больш асцярожнай у пытаннях русіфікацыі. Каб не дапусціць рэцыдыву грузінскіх пратэстаў, у канстытуцыях Армянскай і Азербайджанскай СССР адзінымі дзяржаўнымі мовамі пакінулі мовы тытульных нацый.

Аднак хапае і тых, хто бачыць у сакавіку 1978-га негатыў. Менавіта ў 1978 годзе, на іх думку, было пасеянае насенне абхазскага сепаратызму, што з часам абярнулася трагедыяй для грузінскага дзяржаўнага адзінства. У адказ на моўныя дэманстрацыі ў Грузіі ў адной з абхазскіх вёсак адбыўся шматтысячны сход, на якім мясцовымі ветэранамі-камуністамі быў падпісаны т. зв. «Ліст 130-ці». Падпісанты патрабавалі спыніць перасяленне грузінаў на тэрыторыю Абхазіі і ўвогуле ўключыць край у склад РСФСР.

Масква апаратныя даслала ў Сухумі эмісара, які пераканаў тубыльцаў не ставіць пытанне так катэгарычна. Для падтрымкі лаяльнасці абхазаў быў зацверджаны новы эканамічны план развіцця рэгіёна, а абхазам гарантаваная квота ў кіраўніцтве рэспублікі, у якой яны на той час складалі меншасць. Адным з бонусаў стала таксама стварэнне абхазскамоўнага тэлебачання. Так ці інакш, абхазская эліта з таго часу пачала кансалідавацца супраць Тбілісі, што ў перспектыве прывяло да грузінска-абхазскай вайны.

Якімі б не былі ацэнкі падзей у сакавіку 1978-га, нельга адмаўляць мужнасці ўдзельнікаў моўных пратэстаў, якія выйшлі на вуліцы ў час, калі машына палітычных рэпрэсій была на ўздыме (менавіта на 1977–1978 гады прыходзіцца пік арыштаў дысідэнтаў).

Дарэчы, сярод удзельнікаў пратэстаў быў і цяперашні прэзідэнт Грузіі. «Асабіста для мяне гэта быў адзін з незабыўных і вызначальных момантаў у жыцці — першая палітычная акцыя, да якой я далучыўся разам з аднакласнікамі», — сказаў Георгій Маргвелашвілі, віншуючы землякоў са святам роднай мовы. У сваім звароце ён таксама падкрэсліў, што 14 красавіка 1978 года — «адзін з самых важных дзён у найноўшай гісторыі Грузіі».




**Перамога 1978 года змяніла погляд, у тым ліку сярод эліты, на карысць нацыянальнай ідэі. Масква стала больш асцярожнай у пытаннях русіфікацыі**



# Прэзідэнт швейкаў

**У Чэхіі ў Сенат перададзеная неабходная колькасць подпісаў для таго, каб пачаць працэдуру імпічменту прэзідэнта Мілаша Земана, вядомага сваімі прарасійскімі заявамі. Пра тое, ці адправяць у адстаўку Земана, пра яго феномен і пра іншыя актуальныя праблемы Чэхіі журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з Юрасём Пузікавым, былым беларускім палітэмігрантам у Чэхіі.**

***— Такім чынам, 13 красавіка ў чэшскі Сенат перададзена 10 тысяч подпісаў грамадзян краіны. Гэта колькасць подпісаў патрэбная для таго, каб парламентарыі прыступілі да разгляду пытання аб імпічменце прэзідэнту. У перададзенай у Сенат петыцыі таксама гаворыцца, што Мілаш Земан абвінавачваецца «ў прарасійскай знешняй палітыцы, здрадзе інтарэсам радзімы і абразе годнага імя Чэхіі ў свеце». Якія наступствы можа мець гэтая ініцыятыва?***

— На маю думку, ніякіх наступстваў яна мець не будзе, паколькі, паводле Канстытуцыі, лёс прэзідэнта вырашае галасаванне, а большасць у парламенце ў дэпутатаў ад партый, што ўваходзяць ва ўрадавую кааліцыю і іх негалосных партнёраў — камуністаў. Хутчэй за ўсё, спроба імпічменту — гэта своеасаблівы перформанс пратэсту правай грамадскасці супраць прарасійскіх заяў Земана. Перш за ўсё, яго жадання паехаць у Маскву на парад 9 мая на фоне таго, што лідары краін-суседзяў дружна праігнаравалі запрашэнне Пуціна.

***— На якога палітыка Беларусі або СНД падобны Земан?***

— Безумоўна, на Лукашэнку. Як і кіраўнік Беларусі, Земан не лезе ў кішэню за словам, што прымушае яго прэс-сакратара па факту прыдумляць самыя незвычайныя тэорыі, каб рэабілітаваць боса. Дастаткова ўзгадаць, як Земан узняў тост за смерць усіх вегетарыянцаў. Адзіная розніца ў тым, што ў Чэхіі фактычна няма сялянства, і «лукашызм» у Земана, можна так сказаць, больш урбаністычны.

***— Як выглядае сацыялагічны партрэт сярэднестатыстычнага выбаршчыка Мілаша Земана?***

— Такі партрэт цяжка намаляваць з улікам таго, што выбары ў 2013-м, на якіх палітык перамог, былі вельмі спецыфічныя. Земану супрацьстаяў Карэл Шварцэнберг — прадстаўнік старажытнага арыстакратычнага чэшскага роду, які нарадзіўся і доўгі час жыў у Аўстрыі і, дарэчы, мае таксама швейцарскае грамадзянства. Таму кампанія сацыял-дэмакратаў была пабудаваная шмат у чым на нацыяналістычных лозунгах. Фактычна, яе перафарматалі ў плебісцыт: ты за чэха або за немца? Па-другое, чэхі не любяць афішаваць свае палітычныя сімпатыі. У чымсьці яны падобныя да Швейка — славутага персанажа Ярослава Гашэка. Яны могуць быць простыя ў побыце, аднак ніколі не скажуць праўду, паколькі заўжды маюць сваю думку.

***— У біяграфіі Земана не зразумелы адзін факт. Спачатку яму, як палітычна нелаяльнаму юнаку, забаранялі паступаць у ВНУ. Пасля ў 1970-м выключылі з кампартыі за крытыку падаўлення Пражскай вясны. І пры гэтым у Земана прысутнічаюць дастаткова моцныя прамаскоўскія сентыменты.***

— Трэба ўзгадаць, што Земан — лідар сацыял-дэмакратаў, якія як партыя маюць складаную гістарычную траекторыю. Напрыканцы 1940-х гадоў эсдэкі ўвайшлі ў склад Кампартыі і нейкі час заставаліся там фактычна асобнай фракцыяй. Пасля 1990 года менавіта на іх была адроджаная чэшская сацыял-дэмакратыя, аднак у генерацыі хапае былых камуністаў, накшталт Земана.

***— Сацыял-дэмакрат Мілаш Земан прыйшоў на змену прэзідэнту-ліберала Вацлаву Клаусу. Нягледзячы на ракіроўку, не змяніліся моцныя сентыменты на адрас Расіі. Ці можна казаць, што славянафільства, якое было вельмі моцным у XIX стагоддзі, дасюль застаецца ўплывовым накірункам чэшскай палітычнай культуры?***

— Па-першае, Клаус і Земан выгадаваліся ў сацыялістычнай Чэхаславакіі і так ці інакш былі вымушаны вывучыць рускую мову і культуру, цікавіцца савецкім палітычным жыццём, маюць шмат сяброў у былым СССР. Мяркую, іх дэманстратыўная прарасійская пазіцыя хутчэй адлюстроўвае дэбаты ў грамадстве. Пасля прыходу нямецкага капіталу стала папулярна казаць, што Чэхія вярнулася ў час пратэктатару Багеміі ў складзе Трэцяга Рэйха. Аднак нельга разглядаць Земана як нейкага другога Януковіча. Менавіта пры Земане, напрыклад, пачалася актыўная падрыхтоўка да ўступлення Чэхіі ў зону еўра.

***— Якое месца займае ў чэшскай палітычнай дыскусіі спадчына Вацлава Гавэла?***

— Гавэл — вельмі паважаная фігура ў грамадстве, паколькі пры ім былі адноўленыя палітычныя і культурныя свабоды, а Чэхія вярнулася ў Еўропу. Ён захаваўся ў народнай памяці як просты чалавек, які не цураўся людзей. Аднак, баюся, на гэтым усё абмяжоўваецца. Трэба прызнаць, што Гавэл як творчая асоба абсалютна не пасуе крытэрыям сучаснага палітыка, ад якога вымагаюць выключна «пасміхацца і махаць».

***— Хто сярод чэшскіх палітыкаў здольны кінуць выклік Мілашу Земану?***

— У Чэхіі пакуль ёсць толькі адзіны палітычны цяжкавагавік, здольны цягацца з Земанам. Гэта Вацлаў Клаус. Праблема ў тым, што Грамадзянскія дэмакраты (партыя Вацлава Клауса) перажываюць перыяд развалу. На правым флангу зараз найбольш уплывовая арганізацыя — Акцыя незадаволеных грамадзян (ANO) мільярдэра Андрэя Бабіша. Аднак пакуль гэта больш нагадвае папулісцкі праект. Бабішу трэба некалькі гадоў, каб дарасці да ўзроўню Земана і Клауса. Самае цікавае, што абодва яны ў савецкі час працавалі ў адным навуковым інстытуце і, напэўна, сустракаючыся ў курылцы, не ведалі, што праз нейкі час стануць лідарамі нацыі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Младэн Іваніч



Сябра прэзідыуму Босніі і Герцагавіны ад баснійскіх сербаў парадаваў суграмадзян навіной пра тое, што ў 2017 годзе Брусэль, быццам, не супраць надаць краіне статус афіцыйнага кандыдата ў сябры ЕС. Праўда, пры гэтым Іваніч падкрэсліў, што крыніца інфармацыі пра пачатак непасрэднай інтэграцыі Босніі і Герцагавіны ў ЕС неафіцыйная. Быццам, пра гэта яму паведамілі ў кулуарах Еўракамісіі. Па яго словах, усё будзе залежаць ад тэмпаў рэформ, правядзення якіх патрабуе Брусэль. Варта сказаць, што Сараева ўжо абяцалі статус краіны-кандыдата ў ЕС. Аднак у выніку статус-кво захаваўся. Не выключана, што прагрэс на шляху еўраінтэграцыі Босніі і Герцагавіны звязаны з масавымі беспарадкамі ў лютым мінулага года. Хаця яны былі накіраваныя супраць мясцовага кіраўніцтва, рыкашэтам яны білі і па прэстыжу ЕС. Дэманстранты бачылі ў дзеяннях Брусэля супярэчнасці, паколькі еўрапейцы актыўна супрацоўнічаюць з карумпаваным баснійскім урадам, на якім, на думку пратэстоўцаў, ляжыць адказнасць за несправядлівую прыватызацыю дзяржаўных прадпрыемстваў і крызіс сярэдняга класа.

### Таццяна Фестэрлінг



Актывістка нямецкай ісламафобскай ініцыятывы «Pegida», што з восені мінулага года штотыдзень праводзіць у Дрэздэне свае маніфестацыі супраць ісламізацыі Германіі, высунула сваю кандыдатуру на пасаду мэра сталіцы Саксоніі. Уся прагрэсіўная грамада Германіі яшчэ ўчора мела надзею, што праблема акцый «Pegida» неяк сама сабой знікне (апошнім часам акцыі збіралі каля 2–3 тысяч чалавек замест 10 тысяч, як раней). Жаданне Фестэрлінг балатавацца ў мэры сведчыць пра тое, што марафон экстрэмізму ў Дрэздэне працягнецца і можа мець сур'ёзныя наступствы. Натуральна, кандыдат ад «Pegida» не пераможа, аднак, набраўшы прыстойную лічбу галасоў, Фестэрлінг можа стварыць моду на ўдзел радыкалаў у выбарах мэраў буйных гарадоў. Сітуацыя ўскладняецца тым, што на дапамогу нямецкім калегам, мяркуючы па ўсім, кінуліся ўсе ксенафобы Еўропы. 13 красавіка на традыцыйнай панядзелкавай маніфестацыі «Pegida» выступіў Герт Вілдэрс, старшыня «Партыі Свабоды» (ісламафобская партыя Нідэрландаў).

### Эмамалі Рахмон

Прэзідэнт Таджыкістана вырашыў не адставаць ад казахскага калегі Нурсултана Назарбаева, які роўна 5 гадоў таму прысвоіў сам сябе тытул «Лідар нацыі», або па-казахску Елбасы. Шэраг таджыкскіх навукоўцаў прапанавалі прысвоіць прэзідэнту Рахмону афіцыйнае званне «Лідара нацыі». Ініцыятары сцвярджаюць, што заслуг прэзідэнта краіны Эмамалі Рахмона цалкам дастаткова для абвяшчэння яго лідарам нацыі. Аўтары звароту таксама лічаць, што лідарства асоб, падобных да Эмамалі Рахмона, не мае патрэбы ў пацверджанні, а «нацыі, краіны ва ўмовах сутыкнення цывілізацый, інтарэсаў, глабалізацыі маюць патрэбу ў афіцыйна прызнаных лідарах». Крытыкі Рахмона лічаць, што таджыкскія чыноўнікі падобным культам асобы прэзідэнта хочуць прыкрыць няўдачы эканамічнай палітыкі ўрада. Праўда, некаторыя апазіцыянеры кажуць, што таджыкам яшчэ пашанцавала. Рахмон мог імпартаваць не казахскую практыку, а туркменскую. У такім выпадку Эмамалі мог патрабаваць ад падпарадкаваных, каб яны прапанавалі прысвоіць яму тытул «правадыр».



# Пяць акупацый за адно жыццё

Мікола САВІЦКІ

**Цешуся жыццём я ўжо больш за 80 гадоў. Спыніўся, азірнуўся і жахнуўся. Аказваецца, усё маё жыццё прайшло аж пад пяццю акупацыямі. Не хочацца верыць, але гэта гістарычная праўда.**

Светлае неба над Беларуссю і адсутнасць страху я адчуваў толькі 5 гадоў пасля развалу імперыі СССР з 1991 па 1996 гады. Да адмены Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года і рэферэндуму 1996 года.

А нарадзіўся я ў Заходняй Беларусі, каля самай мяжы, якая па жывому разарвала гістарычна адзіную і вечную тэрыторыю беларусаў. Таму мая класіфікацыя акупацыйных перыядаў пачынаецца з польскай акупацыі.



**Мікалай Іванавіч Савіцкі**

Нарадзіўся 4 лютага 1934 года ў вёсцы Паўлаўшчына Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Беларускі вучоны ў галіне эканамічнай інфарматыкі, прафесар. Сябар клуба «Спадчына» (1988).

Скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі (1957). Выкладчык рахункова-бухгалтарскай школы ў Віцебску (1957–1959). Аспірант Маскоўскага эканоміка-статыстычнага інстытута (1960–1963). Кандыдат эканамічных навук (1963). Навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі АН БССР (1963–1964). З 1964 года ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце: старшы выкладчык, дацэнт, прафесар, загадчык кафедры, дэкан вячэрняга факультэта, прафесар кафедры. У 2001 годзе кіраўніцтва універсітэта не падоўжыла кантракт з Савіцкім, па яго меркаванні, па палітычных матывах.

## Першая — польская (1921–1939)

Успаміны дзяцінства. Крэсы ўсходнія. Вясна 1938-га ці 1939-га года. З бацькам на кульгавай кабылцы вязем з лесу вецце. Сяджу на возе і баюся зваліцца. Насустрач нам галопам на жарабцы ў сядле пад'ехаў якісьці гмінны чыноўнік і пачаў крычаць па-польску на бацьку за тое, што ён працуе ў вялікае свята. Цяпер я думаю — гэта было 3 траўня, Дзень Канстытуцыі.

Жарабец узняўся на дыбы, а пан-чыноўнік нагайкай пачаў сцябаць бацьку і лаяцца. Мне так стала страшна, што я абсікаўся. Бацька пачаў бараніцца, пугай пачаў лупцаваць жарабца і нагайка пана не даставала бацькі. У той час я перажыў вялікі страх і адначасова дзіцячы гонар за бацьку. У тым узросце слова «свабода» было невядома мне. Але ж свіст нагайкі і храп уздыбленага жарабца, лаянка на незразумелай мове доўгі час будзілі мяне па начах, тая падзея помніцца на працягу ўсіх пражытых гадоў. Мо паводзіны бацькі і мая радасць за яго і ёсць дзіцячым адчуваннем святога слова «свабода»?

Як польскім акупацыйным рэжымам знішчалася і разбуралася аснова нацыі — беларуская мова, культура, гістарычная памяць, нацыянальная царква — добра апісана і вядома чытачу.

## Другая — бальшавіцкая (1939–1941)

Чырвоная Армія СССР ноччу ціха перайшла мяжу. Польская стражніца знаходзілася каля нашай вёскі. Мы, дзеці, спалі і ніякіх стрэлаў не чулі. Раніцай прачнуліся і ўбачылі, як людзі неслі маёмасць з кашараў (вайсковая застава). Гэта былі жалезныя ложкі і ўсё іншае, што магло прыдасца ў гаспадарцы. Кашары ноччу згарэлі, а дзе падзеліся польскія жаўнеры, так і засталося загадкай для навакольных жыхароў. Ні жывымі, ні мёртвымі іх ніхто не бачыў. Гаварылі, што напалі на сонных, страляніны не было.

Так пачалася вайна майго дзяцінства. Гэты перыяд навалы з усходу называюць «другія саветы, другія бальшавікі» («першыя саветы» былі ў 1918–1920 гадах). На жалезным ложку (для сялянскай сям'і таго часу гэта было дзіва-дзіўнае), які прынёс бацька з папялішча кашараў, прайшло наша дзяцінства і юнацтва.

Сялян у калгасы да прыходу немцаў не паспелі сагнаць. Але панскія маёнткі паспелі разрабаваць, знішчыць, а іх гаспадароў звезлі ў Сібір. За адзін дзень з дазволу і пры ўдзеле новай улады разрабавалі маёмасць, гаспадарку паноў і так званых кулакоў.

Пад савецкай уладай я пайшоў у першы клас. У доме пані Буйвіт адчынілі школу. Буквар быў беларускі. Але акупанты-вызваліцелі неслі бальшавіцкі дух і рускую мову. За адну ноч зніклі асаднікі, ляснічыя, паны і польскія чыноўнікі. Былі састаўлены спісы найбольш гаспадарлівых сялян на вываз у Сібір, але не паспелі.

Гэтую вакханалію спыніла новая вайна. У народзе была гамонка, што бальшавікі ненадоўга прыйшлі, перачакаем, хутка прыйдуць немцы. Чамусьці людзі не баяліся немцаў, але страшэнна баяліся бальшавікоў. Чаканне было кароткім.

Пачалася новая вайна. Пачалася мабілізацыя. Бацьку прызвалі. З нашай мясцовасці прызыўнікоў збіралі ў Куранцы пад Вілейкай. Яшчэ да прыходу немцаў большасць нававбранцаў праз некалькі дзён вярнуліся ў свае хаты. Не хапала абмундзіравання і іншага вайсковага рыштунку. А гэта значыць, што поўную мабілізацыю ў Заходняй Беларусі бальшавіцкая ўлада не паспела правесці.

## Трэцяя — нямецкая (1941–1944)

Мы з цікавасцю дзівіліся нямецкім самалётам у небе. У нашым наваколлі аніякіх баёў не было, стрэлаў не чулі. Бальшавіцкія начальнікі зніклі за адну ноч. Пакінутую маёмасць на складах станцыі Зябкі і іншых пунктах людзі разнеслі па сваіх хатах. Гаварылі пра баі за горад Полацк. На другі тыдзень вайны адзінкамі і групамі, туляючыся па кустах і ў лесе з'явіліся, чырвонаармейцы, але не ў вайсковым адзенні і без зброі, а тыя адзінкі, якія былі ў вайсковай форме, прасілі нас даць якое-небудзь сялянскае адзенне, каб пераапрануцца.

Прасіліся на жытло і сялянскую працу. Іх бралі звычайна ў сем'і мужчын, якіх паспелі мабілізаваць. Было лета, і мужчынскія рукі былі запатрабаванымі. Часовая нямецкая ўлада ўзяла іх на ўлік. Некаторыя з іх пасля пайшлі на службу да немцаў, хтосьці — у лес. Так паступова з'явіліся партызаны. Аснова партызанскіх атрадаў была створана праз мабілізацыю. Спачатку ўгаворвалі мірна. Жадаючых не было. Пачалі пагрозамі і сілай забіраць тых, каму не пашанцавала схавацца.

Была створана нямецкая адміністрацыя. Солтысам (старастам) быў прызначаны селянін Будзько. Увялі падаткі. Я адносіў у патрэбны час яйкі і малако ва ўстаноўлены пункт. Бедным і шматдзетным сем'ям была нейкая палёгка. У нас было тры гектары зямлі. Памятаю дзень, калі частку зямлі пана Кулеша, які ўцёк пры прыходзе бальшавікоў у 1939 годзе, нямецкая ўлада передала для малазямельных. Якая была радасць! Перачытайце паэму Якуба Коласа «Новая зямля» і адчуеце, што значыць зямля ў жыцці селяніна.

З'явілася як бы двоеўладдзе. Спачатку было ціха. Працягвалася звычайнае жыццё. Партызаны прыходзілі і па-людску прасілі паесці, якое-небудзь адзенне. Потым паступова сталі прыходзіць ноччу і рабаваць фактычна ўсё. У нас забралі каня, карову, авечак, адзенне, сала. Зімой ежу і хатнія рэчы мы хавалі ў гурбах снегу. Партызаны гэта ведалі і шукалі шомпаламі. Ішла гульня — хто каго перахітрыць. Мы, дзеці, у большасці выпадкаў аказваліся хітрэйшымі. Перад кожным прыходам партызан, як пачынаўся стукат-грукат у дзверы і вакно, мама хутка-хутка, каб выратаваць адзенне, адзявала на нас і на сябе ўсё што было.

Партызаны заўсёды патрабавалі самагонкі, солі. Каб застрашыць, часта стралялі ў столь. Гэта было дужа жахліва, смярдзеў дым ад стрэлаў. Мы дрыжэлі. Зубы ляскалі ад страху. Цісnumуліся да спадніцы мамы.

У 1943 годзе немцы ў нашай ваколіцы спалілі ўсё, што магло гарэць. З факеламі падпальвалі дом за домам. А стрэхі ж былі саламяныя. Аднак жа пачатак падпалам паклалі не немцы, а савецкія партызаны. Пад агонь прызначаліся найлепшыя хаты. Было гэта так. Прыходзілі днём і папярэджвалі, што дом праз дзень-два (давалі канкрэтны тэрмін) будзе спалены, і патрабавалі пакінуць яго. На просьбы-маленні не рэагавалі. На



За незалежнасць, 1990-я гады

